Ткачоў, В.Ю.

Жыла-была Ёлачка: п’есы-казкі: для дзяцей малодшага школьнага ўзросту / Васіль Ткачоў. – Мінск: Нар. Асвета, 2013. – 112 с.: іл.

Ці задумваліся вы калі, што бывае з той ёлачкай, якой пашчасціла стаць навагодняй прыгажуняй, пасля таго, як яна парадавала дзяцей і дарослых? Не? Тады звярніцеся да п’есы-казкі вядомага беларускага драматурга Васіля Ткачова “Жыла-была Ёлачка” і вы атрымаеце адказ на гэтае пытанне.

У кнігу ўвайшлі таксама п’есы-казкі “Добры саначнік Аўгей” і “Чарадзейны рукзачок”. Вершы п’ес напісалі вершы вядомыя беларускія паэты Артур Вольскі, Мікола Чарняўскі і Уладзімір Мазго.

Адрасуецца дзецям малодшага школьнага ўзросту.

# СЛОВА АД АЎТАРА

Маё шанаванне вам, сябры! Уступнае слова да гэтай кніжкі, якую вы, упэўнены, ўжо трымаеце ў руках, мне хочацца пачаць менавіта так: калі я пішу свае п’есы - казкі, то ведаеце, аб чым думаю? Не здагадваецеся? Не ламайце галаў, не трэба: я сам прызнаюся. Бо ўсё вельмі проста – я думаю, канечне ж, пра тое, як мае героі ажывуць на падмостках сцэнічных пляцовак, у тым ліку і школьных, як будуць радавацца самадзейныя артысты сваім першым, магчыма, ролям. Воплескі ў зале, кветкі, словы пахвалы ад настаўнікаў і бацькоў – і пра гэта думаю, вядома ж, калі пішу казкі для тэатра. Мне хочацца, і вельмі, каб акторам, што заняты ў прыдуманых мною казках, заўсёды спадарожнічаў толькі поспех.

Але ж калі я пішу свае п’есы-казкі, то яскрава ўяўляю, што да іх звяртаюцца не толькі апантаныя тэатрам хлопчыкі і дзяўчынкі, іх мамы і таты, а і проста чытачы ўсіх узростаў. П’есы лёгка чытаць. І цікава, паверце. Тым больш я сваімі рэмаркамі дапамагаю вам зразумець тыя ці іншыя рэчы, нешта падказваю, і тады атрымліваецца як бы своеасаблівы дыялог паміж мною, драматаругам, і табою, чытач.

Смялей бярыце п’есы - казкі для чытання ў рукі. Як гэта робіць мой унук Максім. “Дзед, новую казку напісаў?”– падыходзіць ён да мяне даволі часта з такім пытаннем. Максім – мой першы чытач. І калі яму прыходзіцца да спадобы тое, што я напісаў, у мяне тады з’яўляецца цудоўны настрой: значыць, тое, што я раблю, патрэбна такім жэўжыкам, як мой унук. А думаючы пра Максіма, я думаю пра ўсіх ягоных равеснікаў – хлопчыкаў і дзяўчынак, якія таксама яшчэ тэпаюць у школу і любяць заглядваць у бібліятэку.

Вось чаму я пішу п’есы-казкі не толькі для пастаноўкі, але і для чытання. Галоўнае, каб цікава было. Згодны?

ЖЫЛА-БЫЛА ЁЛАЧКА

Навагодняя п’еса-казка ў дзвюх дзеях

Вершы Уладзіміра Мазго

Дзейныя асобы:

Ё л а ч к і:
В е р а н і к а.
Лера.
А л ё н к а,
К а ц ь к а,
Ю л ь к а.

Ц а ц к і:
Ш а р ы к,
Г і р л я н д а,

Л е с а в і к.
П я н ё к.
П е р ш ы а к ц ё р.
Д р у г і а к ц ё р.
Д з е д М а р о з.
С н я г у р к а.

## Д з е я п е р ш а я

### 1.

З’яўляюцца два акцёры.

П е р ш ы а к ц ё р. Добры дзень, хлопчыкі і дзяўчынкі!

Д р у г і а к ц ё р. І дарослым таксама – добры дзень!

Р а з а м. Добры дзень усім вам, шаноўныя!

П е р ш ы а к ц ё р. Здаецца, толькі нядаўна адзначалі мы Новы год, аднак ён, той Новы год, цяпер ужо стары, як яго мы называем, праляцеў неяк вокамгненна, непрыкметна…

Д р у г і а к ц ё р. Сапраўды, так імкліва праляцеў, што мы, здаецца, і азірнуцца не паспелі…

П е р ш ы а к ц ё р. Вось-вось: азірнуцца…

Д р у г і а к ц ё р. А гэта зрабіць нам трэба. Абавязкова.

П е р ш ы а к ц ё р. І менавіта сёння…

Д р у г і а к ц ё р. А чаму так зарупіла? Не скажаш вось мне і ўсім, хто сабраўся ў гэтай святочнай зале?

П е р ш ы а к ц ё р. Скажу. Але аб усім – па парадку. Дамовіліся?

Д р у г і а к ц ё р. Дамовіліся, канешне.

П е р ш ы а к ц ё р. Тут атрымліваецца, сябры мае, цэлая гісторыя… цікавая, захапляльная і павучальная…

Д р у г і а к ц ё р. Нават так?!

П е р ш ы а к ц ё р. Нават так. Гісторыя пра ёлачку… Вось мы давай з табой пацікавімся ў гледачоў: у каго з іх не стаіць сёння ў кватэры альбо ў хаце святочная, прыбраная, нібы каралева, ёлачка?

Д р у г і а к ц ё р. Пацікавімся. Ахвотненька. Сябры, у каго ёсць дома ёлка? Падыміце рукі. Уго! *(Да Першага акцёра).* Бачыў? Лес рук!

П е р ш ы а к ц ё р. Вось пра яе, пра Ёлачку, і пойдзе мая гісторыя.

Д р у г і а к ц ё р. Што ж, тады – паслухаем.

П е р ш ы а к ц ё р. Ці задумваліся мы наогул калі-небудзь, што бывае з той ёлачкай, якая радуе нас на навагодняе свята, потым? Як жыве яна? Што яе хвалюе, непакоіць? Шчаслівая яна ці не пасля таго, як пройдзе свята і наступяць звычайныя дні? І куды яны, ёлкі, наогул

вяртаюцца пасля таго, як вакол іх перастануць вадзіць карагод дзеці і дарослыя, а?

Д р у г і а к ц ё р. Гэта сапраўды цікава. А што бывае з ёй, з ёлачкай?

П е р ш ы а к ц ё р. А зараз мы і даведаемся. Усяму свой час.

Д р у г і а к ц ё р. Хаця… хаця я, здаецца, усё зразумеў? Я ўявіў тую ёлачку, і зразумеў. Хочаш, я намалюю яе? Дзе аловак? Дзе чысты аркуш паперы? (Шукае паперу і аловак, але не паспявае гэта зрабіць).

В е р а н і к а *(з'явіўшыся, у яе непрывабны выгляд: такі, калі іголкі пачынаюць абсыпацца).* Навошта мяне маляваць, калі я сама прыйшла?

Д р у г і а к ц ё р. Ты хто?

В е р а н і к а. Я – Ёлачка Вераніка.

П е р ш ы а к ц ё р *(запэрэчыў).* Э не-не! Так справа не пойдзе! Табе яшчэ, Ёлачка Вераніка, рана такой з'яўляцца…у такім выглядзе… Ты, мабыць, нас не чула, але мы тут дамовіліся расказаць гісторыю пра цябе… ну, і пра іншых ёлачак, тваіх сяброўак, добрых і не надта, прызнаемся табе… дамовіліся расказаць па парадку. Па парад-ку!

В е р а н і к а. Дык што мне цяпер рабіць?

Д р у г і а к ц ё р. Я здагадаўся – што: стаць ранейшай Ёлачкай… зялёненькай, прыгожанькай, пушысценькай…

П е р ш ы а к ц ё р. Такой, якою ты і была раней – да свята і на свяце…

В е р а н і к а. А ці змагу я так зрабіць?

П е р ш ы а к ц ё р. У казцы ўсё можна.

Д р у г і а к ц ё р. Ды яшчэ тады, калі ўсе нашы гледачы просяць.

П е р ш ы а к ц ё р. Так, дзеці?

Дзеці падтрымліваюць.

В е р а н і к а. Да пабачэння!.. Я хутка вярнуся!.. *(Знікае).*

Д р у г і а к ц ё р. Бачым, бачым: вы ўсе таксама, як і мы, цікаўныя людзі. Тады – увага!.. Глядзім далей!..

Акцёры знікаюць. Харэаграфічная карцінка з удзелам ёлачак Алёнкі, Кацькі і Юлькі.

2.

Зіма. Прыгожы лясны куток.

В е р а н і к а *(спявае):*

Новы год, Новы год!
Белы снег, як вата.
Каля Ёлкі карагод
Закружыла свята.

Скачуць заяц і ліса –
Добрыя суседзі.
Па палях і па лясах
Дзед Мароз прыедзе.

А гірлянды і шары
Ззяюць на галінках,
Бо прыйшла да дзетвары
Лепшая ялінка.

Паскараюць стрэлкі ход,
Нібы ў эстафеце,
Каб сустрэлі Новы год
Каля Ёлкі дзеці.

Хай і людзі, і звяры
Век жывуць у згодзе.
Хай жадаюць нам сябры
Шчасця ў новым годзе!..

Л е р а *(з’явіўшыся).* Зайдрошчу я табе, Ёлачка Вераніка.

В е р а н і к а. Чаму ты мне зайдросціш, Ёлачка Лера?

Л е р а. Як жа – чаму? Ты ў горад едзеш, на свята. А мяне не ўзялі… З усіх ёлачак выбралі толькі цябе… Шчаслівая… А я вельмі хацела таксама на навагодняе свята… да хлопчыкаў і дзяўчынак…

В е р а н і к а. Не ведаю, чаму так атрымалася, але ты ўсё роўна самая прыгожая ёлачка ў нашым лесе, пра гэта ўсе скажуць.

Л е р а. Не, не… Выходзіць, я не самая прыгожая ёлачка. *(Хлімкае).*

В е р а н і к а. Не плач, Ёлачка Лера.

Л е р а. А што, мне смяяцца загадаеш? Так?

В е р а н і к а. Смяяцца? Не ведаю, можа і не, але радавацца трэба…

Л е р а. Чаму радавацца мне?

В е р а н і к а. Святу! Свята ж набліжаецца! Новы год!

Л е р а *(весела, але – не шчыра).* Ой, што гэта я і сапраўды?.. Свята ж!..

З'яўляецца Лесавік.

В е р а н і к а. Вось Лесавік няхай скажа, якая ты, – прыгожая ці не?

Л е р а. Скажы, дзядуля Лесавік.

Л е с а в і к *(не адразу, яму няпроста гаварыць: шкада, што ў лесе на адну ёлачку будзе менш).* І ты прыгожая, і ты… Вы абедзьве прыгажуні. І мне вельмі не хочацца… вельмі не хочацца…

В е р а н і к а. Чаго табе не хочацца, Лесавік?

Л е с а в і к. Каб ты пакідала нас.

В е р а н і к а. Дык я ж вярнуся! Вярнуся! Я ж ненадоўга да дзетак. Святы ж доўга не бываюць…

Л е р а. Чуеш, дзядуля, яна вернецца.

Л е с а в і к *(думаючы пра сваё).* Але ж і дзетак я разумею: які ж гэта Новы год без ёлкі? Ім ёлку падавай. Таму яны чакаюць цябе, Вераніка.

В е р а н і к а. Дык чаму ж ты тады такі сумны, дзядуля Лесавік?

Л е с а в і к. Маленькая ты яшчэ, Ёлачка, нічога не разумееш. *(Знікае).*

В е р а н і к а *(услед).* Лесавік! Дзядуля! Ты што, пакрыўдзіўся на мяне? *(Леры).* Ён пакрыўдзіўся на мяне… Але за што?

Л е р а. Не ведаю… *(Сама сабе – так, каб не чула Вераніка).* А можа і добра, што ён пакрыўдзіўся на яе, а? Так для мяне лепей. Трэба дбаць пра будучае і сваё месца ў тым будучым. *(Лісліва).* Ну, што ты замоўкла?

В е р а н і к а. Лесавік пакрыўдзіўся на мяне, відаць, толькі за тое, што я пакідаю яго… А ты, Лера, не крыўдуеш, што я пакідаю і цябе?

Л е р а. Я ж разумею, не думай: дзве ёлкі адразу не патрэбны на навагоднім свяце… А, можа, на наступны год і сапраўды мяне выберуць?

В е р а н і к а. Выберуць. Абавязкова. Я ж таксама першы раз на свята сабралася. Заўсёды у нас, ёлачак, бывае некалі першы раз яно, свята.

Л е р а. І тады я таксама буду спяваць ад радасці. Але ж… але ж як доўга чакаць мне!.. Хаця… Хаця… Хаця, мусіць, так і лепш? Я

падрасту тым часам, стану больш дарослай ёлачкай… і больш разумнай…

В е р а н і к а. І я тады таксама буду радавацца за цябе. Як сёння ты радуешся за мяне.

Л е р а. Толькі да таго часу яшчэ дажыць трэба. А твой час ужо настаў. Я нецярплівая. Чаму такая, і сама не ведаю. Мне хочацца ўсё і адразу…

В е р а н і к а *(спахапілася).* Ой, што гэта я? Мне ж пара на свята адпраўляцца. Забавілася. Яшчэ, чаго добрага, спазнюся.

Л е р а. Цябе правесці, Ёлачка Вераніка?

В е р а н і к а. Я буду табе вельмі ўдзячна, Ёлачка Лера.

Л е р а. Пабеглі!

Знікаюць, узяўшыся за рукі.

3.

Уваходзіць Лесавік з алоўкам і блакноцікам.

Л е с а в і к *(лічыць дрэвы і пазначае ў блакноце).* Ёлачка Алёнка на месцы… Ёлачка Кацька на месцы… Ёлачка Юлька нікуды не падзелася, тут яна таксама… Такім чынам, усе мае ёлачкі на месцы… Пачакай, а Ёлачка Лера дзе? Няўжо, няўжо і яна на навагодняе свята шаснула? Без майго дазволу? Ай-я-яй!..

З’яўляецца Лера.

Л е р а. Тут я, тут, Лесавік.

Л е с а в і к. А я ўжо хвалявацца, непакоіцца пачаў. Цішэй, няхай спяць ёлачкі, а то разбудзім іх… Пайшлі, пайшлі адсюль.

Знікаюць. Ёлкі ажываюць.

А л ё н к а. А мы і не спім зусім!

К а ц ь к а. Хто ж у такі час, калі навагодняе свята надыходзіць, спіць?

Ю л ь к а. Мы таксама рыхтуемся да балю.

А л ё н к а. Няхай дзеці весяляцца ў тэатрах, школах, садках…

К а ц ь к а. А мы будзем – тут, у лесе!

Ю л ь к а. І няхай у нас не будзе такіх прыгожых цацак, як у іх на навагодніх ёлках, але мы таксама нешта прыдумаем цікавае…

А л ё н к а. Бо на нашым навагоднім прадстаўленні абяцалі быць усе насельнікі нашага лесу…

К а ц ь к а. Сам мядзведзь Таптыжка…

Ю л ь к а. Шэры  воўк Антон…

А л ё н к а. Клыкасты вяпрук Сцяпан…

К а ц ь к а. Канешне ж, і Зайчык, хлеба акрайчык…

Ю л ь к а. І Вавёрка і яе жаніх Ягорка…

А л ё н к а. Ды хіба ж усіх пералічыш, хто будзе на нашым лясным навагоднім прадстаўленні!

К а ц ь к а. Прыходзьце ўсе, хто жадае.

А л ё н к а. Хто песні знае…

Ю л ь к а. І Новы год вітае!..

Ёлачкі танчаць і спяваюць:

Мы – ёлачкі, мы – ёлачкі,
Зялёныя іголачкі,
Бо Новы год без Ёлкі,
Як нітка без іголкі.

Мы – ёлачкі пушыстыя,
Вясёлыя, іскрыстыя.
Калі без Ёлкі хата –
Няма наогул свята.

4.

П е р ш ы а к ц ё р. Як там наша Ёлачка Вераніка пажывае?

Д р у г і  а к ц ё р. Па маіх разліках, яна павінна ўжо дабрацца да месца прызначэння. Дарога няблізкая, але яна ж не пехам дабіралася. Спярша ехала на санках, потым на грузавічку…

П е р ш ы а к ц ё р. Падажаем і мы Ёлачцы добра правесці час з дзеткамі.

Д р у г і  а к ц ё р. Уяўляю… Уяўляю, якой прыгажуняю стане Ёлачка Вераніка! Гараць гірлянды, зіхацяць-пераліваюцца рознакаляровыя шары!.. Прыгажосць!.. Супер!..

П е р ш ы а к ц ё р. Гэта ўсё добра. Так-так. А давайце разам вось з нашымі гледачамі паназіраем, што будзе адбывацца далей ў нашым лесе… паглядзім, як будуць разгортвацца падзеі. А?

Д р у г і  а к ц ё р. Не забыцца б толькі і на навагоднім свяце пабываць. Каля нашай знаёмай Ёлачкі Веранікі.

П е р ш ы а к ц ё р. Ну, гэта канешне, канешне!

Д р у г і а к ц ё р. Зазірнем, зазірнем і на свята. Думаю, нам пашанцуе зрабіць гэта.

П е р ш ы а к ц ё р. Будзем спадзявацца. А пакуль недзе трэба затаіцца і паназіраць за ўсім, што будзе дзеяцца наваколл… Каб не замінаць героям нашай казкі…

Д р у г і а к ц ё р. Ага!.. Так-так!.. Не будзем перашкаджаць… Дамовіліся!

П е р ш ы а к ц ё р. Дамовіліся!

Знікаюць.

5.

На палянцы спіць Пянёк. Але не адразу зразумееш, што гэта ён. Кучка нечага – не больш. Толькі калі Пянёк прачнецца, тады і бачыш, што гэта ён.

П я н ё к *( спявае):*

Я – пянёк, лясны пянёк.
Зразумелі вы намёк,
Што ад цэлай ёлкі
Я застаўся толькі.

Адзінока мне ў бары,
Я ў журбе вялікай,
Бо пайшла да дзетвары
Ёлка Вераніка.

Я – пянёк, лясны пянёк,
Не князёк і не панок,
А жабрак без ёлкі
Голы – ні іголкі.

Вераніка без мяне,
Ведаю, загіне.
Ратаваць пайду яе,
Як сваю княгіню.

П я н ё к *(гаротна ўздыхнуў).* Як яна там, Ёлачка, як яна там, без мяне? Прападзе, відаць, зусім. І як гэта я адпусціў яе? Дзе мая галава

была раней? Не, трэба нешта рабіць. Трэба дзейнічаць. Тэрмінова. Неадкладна.

З’яўляецца Лесавік.

Л е с а в і к. Не спяшайся, Пянёк. Перш, чым нешта зрабіць, трэба добранька падумаць.

П я н ё к. Я падумаў.

Л е с а в і к. І што ж ты вырашыў?

П я н ё к. Ратаваць Ёлачку! Без мяне яна доўга не пражыве.

Л е с а в і к. Можа ты і праўду кажаш…

П я н ё к. Праўду, я праўду кажу!

Л е с а в і к. Але ж ты пра дзяцей не падумаў. Пра навагоднняе свята. Хіба ж Новы год бывае без ёлкі?

П я н ё к. Выходзіць, і сапраўды не падумаў. Не бывае.

Л е с а в і к. Ну, вось, бачыш.

П я н ё к. Што ж цяпер рабіць? Як быць? Не падкажаш, Лесавік?

Л е с а в і к. Падкажу.

П я н ё к. Кажы хутчэй!

Л е с а в і к. Чакаць. Застаецца адно: чакаць, пакуль свята не кончыцца…

П я н ё к. О, не! Я не магу такой раскошы дазволіць сабе! Яна ж, Ёлачка, памрэ без мяне! Я ж яе Пянёк, корань жыцця. Як ты зразумець гэтага не можаш, Лесавік? І я, дурніца, адпусціў яе! Адным словам – Пень!.. Я – Пень!.. Неразумны … які…які бачыць недалёка… Відаць таму, што я маленькі… на вяршок ад зямлі…

Л е с а в і к. Тут, браце, не ў росце справа.

П я н ё к. А ў чым жа тады? У чым, дзядуля Лесавік?

Л е с а в і к. Паслухай мяне, старога Лесавіка, які пражыў доўгае жыццё. Паслухай і павер мне. Вось што я табе скажу, дружок. Не толькі твая ёлачка сёння пайшла ў госці да дзяцей – іх шмат, такіх ёлачак. І не толькі ў нашым лесе. Змірыся, Пянёк. Такі твой лёс…

П я н ё к. Не згодны. Цалкам. Лёс кожнага залежыць і ад цябе самога. І ад мяне ён залежыць. Я пабег ратаваць Ёлачку! І не адгаворвай мяне, Лесавік! *(Знікае).*

Л е с а в і к. Ну, што ты яму скажаш? Малады… Гарачы… Можна падумаць, што дзеці, да якіх пайшла Ёлачка на свята, аддадуць яе Пяньку? Не аддадуць. Я ж і кажу: малады, гарачы… Не можа зразумець ён аднаго: калі б не было навагодняй Ёлачкі, не было б і яго, Пянёчка… *(Знікае).*

6.

З’яўляюцца цацкі Шарык і Гірлянда. Спяваюць:

Мы – Шарык і Гірлянда –
Найлепшыя сябры,
Спяшаемся на свята
Да ранішняй зары.

Галінкамі пагушкаць
Нас трэба ля ствала,
Каб ёлка-папялушка
Прынцэсаю была.

Гірляндачка і Шарык
Світаюць угары.
Яліначка, абшары
Святочна азары!

Ш а р ы к. Фу, нам яшчэ, відаць, ісці ды ісці.
Г і р л я н д а. У каго б спытаць, дзе ладзяць тут паблізу дзеці навагодняе свята?
Ш а р ы к. А ў каго тут спытаеш? Ні адной жывой душы. Адны дрэвы.
Г і р л я н д а. Ты як хочаш, Шарык, а я рашыла адпачыць.
Ш а р ы к. Не пайду ж я адзін…
Г і р л я н д а. Калі засну, тармаснеш мяне. Ух, стамілася!..

Сядаюць. З-за дрэва выглядвае Пянёк.

Ш а р ы к. Добра. Разбуджу, калі заснеш.
Г і р л я н д а. Мне трэба абавязкова быць на свяце, не спазніцца б толькі. Дзе гэта хто бачыў сёння ёлку без мяне, без Гірлянды?
Ш а р ы к. Памаўчы лепш, Гірлянда. Можна падумаць, што бываюць навагоднія ёлкі і без нас, шарыкаў?
Г і р л я н д а. Тады атрымліваецца, што на Ёлцы мы – галоўныя цацкі?
Ш а р ы к. Самыя галоўныя!
П я н ё к *(сам сабе).* Так, вось што яны задумалі! “Самыя галоўныя цацкі”. Бачылі вы іх? Нешта трэба прыдумаць, каб яны не паспелі на Ёлачку, не сустрэліся з ёй? Іначай, калі яны ўпрыгожаць

Ёлачку, у дзяцей тады яе і сапраўды не зябарэш. Учэпяцца дзеці: яна наша…не аддадзім… гэта самая прыгожая Ёлачка… А калі будзе непрыгожая, дзеці самі адвернуцца ад такой ёлкі… Бач ты іх, Шарыка і Гірлянду! Ага, так і дазволю радавацца вам. А што ж тады будзе з самой Ёлачкай? Яна ж памрэ без мяне, без пянёчка… Я, толькі я змагу напаіць яе… даць зямныя сокі… *(Выходзіць з хованкі).* Маё шанаванне!

Ш а р ы к. Ты хто?

Г і р л я н д а. Франт, гляджу!

П я н ё к. А па мне хіба не відаць, хто я?

Ш а р ы к. Не.

Г і р л я н д а *(абнюхвае Пянька).* Пахнеш ёлачкай…

П я н ё к. Жыла-была Ёлачка…

Ш а р ы к. Як гэта?

П я н ё к. Застаўся толькі я…

Ш а р ы к *(абрадавана).* А, дык ты ж пянёк Ёлачкі.

Г і р л я н д а. Сапраўды, ён. І як я адразу не здагадалася!

П я н ё к. Пянёк. Гэта ўсё, што засталося ад Ёлачкі.

Ш а р ы к. Мы якраз ідзем на навагодняе свята.

Г і р л я н д а. Не падкажаш нам, Пянёк, дарогу да тваёй Ёлкі?

Ш а р ы к. Ага! Я ўжо бачу сябе на Ёлцы!..

П я н ё к. З задавальненнем.

Г і р л я н д а. Паказвай хутчэй.

П я н ё к. А што тут складанага?

Г і р л я н д а. Слухаем, слухаем.

П я н ё к. Пойдзіце прама, потым зверніце налева. Потым зноў прама… Там вам стрэнецца цар-дуб… За ім – галоўная дарога і прыгарад…. Убачыце шматпавярховыя дамы-гмахі… У іх двары – школа… ці нават тэатр… Дакладна не ведаю… Вось і ўсе цяжкасці, здаецца.

Ш а р ы к. Дзякуй, Пянёк.

П я н ё к. Ды няма за што. Рады старацца.

Г і р л я н д а. А то б мо пайшоў з намі?

Ш а р ы к. Давай, думай.

П я н ё к. Не, не магу: тут буду чакаць Ёлачку.

Ш а р ы к. Твая справа. Наша – прапанаваць. Ну, бывай здаровы, Пянёк!

Г і р л я н д а. Магчыма, і сустрэнемся? Зямля круглая.

П я н ё к. Шчаслівa.

Шарык і Гірлянда знікаюць.

П я н ё к *(задаволены).* Папаліся! Ага! Чаго захацелі?! На Ёлку! А я іх адправіў зусім у іншы бок! А сам пабягу да Ёлкі і вярну яе ў лес!.. Паспець бы толькі!.. *(Знікае).*

7.

Шарык і Гірлянда блукаюць па лесе.

Ш а р ы к *(буркліва).* Дзе ён, той горад, тая школа, тая Ёлка?

Г і р л я н да. Я так і ведала, што спознімся.

Ш а р ы к. Трэба было раней выходзіць.

Г і р л я н да. Памаўчы, нябога. Кожны ж год паспявалі…

Ш а р ы к. То кожны год. Цяпер лес зарос і падрос, бачыш, як усё змянілася? Не пазнаць… Маленькія дрэвы сталі вялікімі. Лес расце, як і чалавек. Тут кожны можа заблудзіцца… Паспрабуй сарыентавацца…

Г і р л я н да. А ў горадзе дамы растуць, нібы грыбы ўлетку: не пазнаць цяпер і горад. Вось дык трапілі мы ў пастку. Пакрыўдзяцца ўсе дзеці, якія на ёлку прыйдуць, бо нас няма. Ёлка голая будзе стаяць. Як абшчыпаная.

Ш а р ы к. Паслухай, Гірлянда, а табе не здаецца, што Пянёк нам зманіў, не ў той бок паказаў?

Г і р л я н да. А навошта яму гэта?

Ш а р ы к. А давай падумаем.

Г і р л я н да. Няма калі думаць. Трэба спяшацца.

Ш а р ы к. Спяшайся, калі не ведаеш, у які бок спяшацца…

Г і р л я н д а. Я зараз плакаць буду! *(Тупае нагамі).* Крычаць!..

Ш а р ы к *(ажывіўся*). Крычаць?

Г і р л я н да. Крычаць. А што, забароніш?

Ш а р ы к. Гэта ж, наадварот, цудоўна – крычаць. Давай, крычы.

Г і р л я н да. А… а як… крычаць?

Ш а р ы к. Ты ж збіралася.

Г і р л я н д а. Збіралася… не пярэчу… а цяпер вось, калі трэба, і словы тыя некуды падзеліся. Не знаходжу слоў, каб крычаць. Падказвай.

Ш а р ы к. Давай разам?

Г і р л я н д а. Давай, давай. Ахвотна.

Ш а р ы к. Ёсць хто ў лесе-е? Дапамажыце-е! Э-ге-ге-й!

Гірлянда не паспявае за Шарыкам, толькі падхоплівае канчаткі слоў.

Ш а р ы к. А цяпер – разам. Не спазняйся.
Р а з а м. Ёсць хто ў лесе-е? Дапамажыце-е! Э-ге-ге-й!
Ш а р ы к. Чуеш, крокі?
Г і р л я н д а. Чую.
Ш а р ы к. Свет не без добрых людзей.
Г і р л я н д а. Гэта Лесавік.
Ш а р ы к. Лічы, што мы выратаваны.

З ‘яўляецца Лесавік.

Л е с а в і к. Чым магу служыць, сябры мае?
Г і р л я н д а. Спяшаемся на навагодняе свята, а выйсці на правільную дарогу не можам.
Ш а р ы к. Выручай, Лесавік.
Г і р л я н д а. Мы ж галоўныя цацкі на Ёлцы.
Л е с а в і к. Ды гэта я ведаю. Якая гэта ёлка без гірлянды і шароў? Дам я вам компас. Дам. Так і быць. Глядзіце сюды. *(Дастаў компас).* Пойдзіце туды, куды паказвае вось гэтая вялікая стрэлка. Толькі нікуды не зварочвайце. Ні на крок. Зразумелі?
Г і р л я н д а. Зразумелі, Лесавік.
Ш а р ы к. Дзякуй табе, дзядуля. *(Узяў компас).* А штука гэтая як называецца? Забыўся… А, компас!
Л е с а в і к. Компас. Запомні.
Ш а р ы к. Запомні ты, Гірлянда. У цябе памяць лепшая.
Г і р л я н д а. Запомніла. На зваротнай дарозе, пасля святочных дзён, мы абавязкова вам вернем яго.
Л е с а в і к. Ступайце, ступайце. З Богам.

Шарык і Гірлянда знікаюць.

Л е с а в і к. Я калі маленькі быў, дужа хацеў таксама пабываць на ёлцы, павадзіць карагод разам з дзецьмі. Аднак у мяне не атрымалася. Не ўзялі мяне… Сказалі, я тут, у лесе, больш патрэбны… Цяпер я кожнаму, хто хоча патрапіць на навагодняе свята, дапамагаю гэта зрабіць… Ну, як тут мае маленькія ёлачкі? Не сумуюць? На месцы? Зараз праверым… *(Дастаў блакноцік і алоўак, правярае, ці на месцы дрэвы).* Ёлачка Алёнка? Тут… Ёлачка Кацька? Тут таксама…Ёлачка Юлька? Нікуды не падзелася і яна… Усе мае

ёлачкі на месцы… Яны дысцыплінаваныя ў мяне. *(Спахапіўся).* Пачакай, а Ёлачка Лера дзе? Няўжо, няўжо і яна ўсё ж пабегла на навагодняе свята? Без майго дазволу? *(Шукае).* Лера! Лера! Не відаць і не чуваць. Увесь свой участак абышоў, а яе няма. Няўжо аслухалася? Ай-я-яй! А што гаварыла? “Падрасту, куды мне спяшацца, на наступны год і я буду каралевай на навагоднім бале”… Не вытрымала… Паспяшалася…. А можа я, стары буркун, памыляюся? Хацелася б. Вельмі хацелася б, каб так яно і было. *(Знікае).*

8.

З ‘яўляецца Ёлачка Лера.

Л е р а. Не, я не буду прымаць удзелу ў нашым лясным свяце. Падумаеш! Для каго тут старацца? Для мядзведзя ды ваўка? Не, гэта не па мне. Вось каб да дзетак і мне на свята трапіць неяк! А як? Год чакаць? Не змагу, не змагу! Гэта ж цэлая вечнасць! Я ж згару ад зайдрасці да Ёлкі Веранікі! Так мне хочацца быць на яе месцы! Але ж я не дурненькая, разумею, што нічога ў мяне не атрымаецца… Тады… тады… нешта трэба прыдумаць, как і ёй, Ёлцы Вераніке, нашкодзіць? Прыдумала! Я прыдумала! Тут недзе паблізу блукаюць цацкі Шарык і Гірлянда, якія спяшаюцца на ёлку… Чула, чула, як клікалі яны на дапамогу. (Смяецца). Так я ім і дапамагу!.. Так я іх і выручу!.. Чакайце!.. *(Знікае).*

Уваходзіць Лесавік.

Ле с а в і к. І куды ж яна магла падзецца, Ёлачка Лера, тая яшчэ халера? Ніхто не падкажа мне, куды яна пабегла, што задумала? Няўжо? Так і сказала: пастараюся ўсё зрабіць, каб Ёлачка Вераніка засталася без цацак? Бачыце, якая яна хітрая і шкодная? Кажа адно, а робіць іншае. Самі ж бачылі, як падхапіла яна Ёлачку Вераніку пад руку і памелася правесці яе на свята? То пачакай ў мяне, нягодная! Знайду – адлупцую!… *(Знікае).*

9.

Чуваць галасы:”Мы вітаем цябе, ёлачка!”, “Заходзь, заходзь да нас у госці!”, “Мы табе заўсёды рады!”, “Ты наша самая лепшая казка!”

Воплескі.

В е р а н і к а *(сумна).* Так прыветна мяне дзеткі сустрэлі, я ажно разгубілася. Ды гэта ўсё добра… Але ж… але ж я зусім голая. Бачыце? Ніводнай цацкі пакуль на мне няма. Павінны б Шарык і Гірлянда ўжо быць, абяцалі ж, збіраліся, але нешта позняцца. Што ж мне рабіць? Не ведаю пакуль. Застаецца адно – чакаць…

10.

Раптам у лесе ўзняўся шалёны вецер, ён  гудзе і шпурляе перад сабой снежную крупку, а вершаліны дрэў ажно прыгінае да зямлі.

Шарык і Гірлянда, трымаючыся за рукі, не скараюцца перад сіверам – ідуць, наколькі могуць, наперад.

Ш а р ы к. Трымайся мацней за мяне, Гірлянда! Мацней трымайся! Табе трэба асабліва берагчыся – без тваіх лямпачак ёлка будзе не ёлка! Чуеш мяне, Гірлянда?

Г і р л я н д а. Я трымаюся моцна. Не хвалюйся. Ці мне прывыкаць? А ты ж глядзі толькі компас не згубі.

Ш а р ы к. Компас? Ага, компас! Добра, што напомніла. Пачакай, а яго ў мяне… няма… А дзе ж ён, сапраўды? *(Шукае ўсюды, дзе можа ён быць).*

У лесе ўсталявалася нарэшце добрае надвор'е.

Г і р л я н д а. Які ж ты ўсё ж , Шарык, ненадзейны.

Ш а р ы к. Прабач, Гірлянда. Няйначай згубіў. Нідзе яго няма.

Г і р л я н д а. Што ж цяпер рабіць будзем?

Ш а р ы к. Я нават не ведаю.

Г і р л я н д а. На ёлку зусім можам не трапіць… А перад Лесавіком куды вочы падзенем? Я ж абяцала яму вярнуць компас.

Ш а р ы к *(нервова).* Ды чуў, чуў я!

Г і р л я н д а. Бяда адна не ходзіць…

Ш а р ы к. Паспрабуем самі выбіцца на галоўную дарогу.

Г і р л я н д а. Іншага выйсця ў нас няма. Пайшлі.

Ш а р ы к. Пайшлі.

Знікаюць.

З'яўляецца Ёлачка Лера.

Л е р а. Вось ён, компас! Яны згубілі, а я знайшла. Так пашанцавала мне! Так пашанцавала! І сама не чакала нават!.. Цяпер хай знойдуць яны Ёлачку Вераніку! Уяўляю, уяўляю, як плача яна! Якая ж гэта ёлка без навагодніх цацак? Адна назва. Я б, канешне, магла дагнаць Шарыка і Гірлянку і вярнуць ім компас, толькі я не буду гэтага рабіць. Навошта? Сапсую ўсім свята. Усім. Будуць ведаць, як крыўдзіць мяне, самую прыгожую ёлку ў нашым лесе!

З'яўляецца Пянёк.

П я н ё к. Нядобра так рабіць, Лера.
Л е р а. Ой, гэта ты, пянёк? Адкуль і куды?
П я н ё к *(храбра).* Дагані і вярні компас!
Л е р а. Што ўпала, тое прапала. Ці не так?
П я н ё к. А я сказаў: вярні!
Л е р а. Грозны, бачу?
П я н ё к. Яны, цацкі, спяшаюцца на маю ёлку.
Л е р а. Была твая. Цяпер, калі яна ў горад трапіла, то чакай, так і вернцца. Багата хто вярнуўся з таго гораду. Ой, багата!..
П я н ё к. А мая вернецца. Компас! Ну, каму сказаў!
Л е р а. Не аддам, не аддам, не аддам!
П я н ё к *(сілком адняў компас).* Буду я тут з табой важдацца.
Л е р а. А я нешта таксама ведаю, не думай, што ты анёл.
П я н ё к. Хочаш сказаць, што я паказаў Шарыку і Гірляндзе не тую дарогу на ёлку? Гэта хочаш сказаць?
Л е р а. А што, мала? За такое цябе, упэўнена і глыбока пераканана, яны па галоўцы не пагладзяць.
П я н ё к. А мне, можа, яны і даруюць…
Л е р а. Такое не даруецца. Не-а.
П я н ё к. Вераніка – гэта мая Ёлка, і я хачу яе чым хутчэй вярнуць у лес. Што, забароніш?
Л е р а. Не ведаю, не ведаю, але Ёлка – гэта Ёлка, а ты – Пянёк. Усяго наўсяго. *(Дражніцца).* Пянёк, Пянёк, Пянёк!.. Розніцу адчуваеш?
П я н ё к. Пайшла прэч, пракуда!
Л е р а. А вось і не пайду.
П я н ё к. Пойдзеш. *(Кліча).* Шарык! Гірлянда!
Г о л а с Ш а р ы к а. Мы тут!
Г о л а с Г і р л я н д ы. Мы тут!
Г о л а с Ш а р ы к а. А ты дзе, Пянёк?
П я н ё к. Я блізка! Я побач! Я знайшоў ваш компас!

Л е р а. Ну, пачакай, Пянёк! Ты мяне яшчэ ўспомніш! Ух, злыдзень!.. *(Памахала перад носам Пянька і ўцякла).*

Падыходзяць Шарык і Гірлянда. Пянёк вяртае Шарыку компас, але ў таго яго адразу ж забірае Гірлянда.

Г і р л я н д а. Дай сюды! Так надзейней будзе.

Ш а р ы к. Бяры, трымай, я не супраць. А ты выручыў нас, Пянёк.

Г і р л я н д а. Вось дзякуй табе. Цяпер мы не спознімся на ёлку.

Ш а р ы к. Чаму ты такі сумны, Пянёк?

Г і р л я н д а. Ты ж добрую справу зрабіў, павінен радавацца.

Ш а р ы к. Пабеглі з намі на свята?

П я н ё к. З вамі? На свята?

Ш а р ы к. Ага. З намі.

Г і р л я н д а. Ну, чаму ты яшчэ раздумваеш? Навагодняе ж свята бывае ўсяго адзін раз у год!..

П я н ё к. Я ведаю. Толькі не пытайцеся больш, чаму я такі сумны. Я сам скажу. Я паказаў вам не тую дарогу… Прабачце. Даруйце. Калі можаце…

Ш а р ы к *( не адразу).* Вушы б табе надраць за такія праробкі, аднак не хочацца псаваць святочны настрой.

Г і р л я н д а. І мне таксама.

Ш а р ы к. Добра тое, што добра канчаецца.

П я н ё к. А за тое, што на свята запрасілі, дзякуй. Толькі ж дзе вы бачылі, каб калі-небудзь на свяце быў Пянёк? Ёлкі – так, правільна, а мы, пянькі, застаемся заўсёды ў лесе. І я не выключэнне. Шчаслівай вам дарогі, цацкі!..

Зацямненне.

## Д з е я д р у г а я

### 11.

П е р ш ы а к ц ё р. Здаецца, ўсё стала на свае месцы, мы ва ўсім разабраліся.

Д р у г і а к ц ё р. Як гэта – ва ўсім разабраліся? А Ёлачка Вераніка? А Пянёк?

П е р ш ы а к ц ё р. Хаця, так-так, сапраўды, пачакаем, паглядзім, як наша галоўная гераіня пажывае – што з ёй і як. А што – Пянёк?

Д р у г і а к ц ё р. Як – што? Ён жа намерыўся бегчы ўслед на Ёлачкай Веранікай, каб вярнуць яе ў лес, баяўся, што яна не пражыве доўга без яго сокаў, якія той сам чэрпае сваімі карэньчыкамі з зямлі і поіць яе? Ці я, можа, не так зразумеў яго?

П е р ш ы а к ц ё р. З гэтым нашым героем і мне не ўсё зразумела. Паглядзім, яе павядзе ён сябе далей. Пянёк, Пянёк, а відаць, ён надта хітры? Не думаеш так?

Д р у г і а к ц ё р. І мне так здаецца: нешта хітруе ён. Ад яго можна чакаць самых розных сюрпрызаў.

П е р ш ы а к ц ё р. І не толькі, відаць, ад яго.

Д р у г і а к ц ё р. У самы бліжэйшы час!

### 12.

Краявіды горада. Шарык і Гірлянда радуюцца: нарэшце дабраліся яны да месца, дзе будзе праводзіцца святочны баль.

Ш а р ы к. Як прыгожа наўкола!

Г і р л я н д а. Паспелі! Ура!

Ш а р ы к. Ура-а!..

Г і р л я н да. А вунь і Ёлачка Вераніка нас сустракае! Вунь яна, вунь!..

В е р а н і к а *(з’явіўшыся).* Вы малайцы! А я так хвалявалася!

Ш а р ы к. З прыгодамі, але дабраліся.

Г і р л я н д а. З прыгодамі-карагодамі.

Ш а р ы к. Не маглі не дабрацца.

В е р а н і к а. Праходзьце. Чаго не ўбачыш, і дзеці пачнуць збірацца на баль. Добрыя тут хлопчыкі і дзяўчынкі жывуць. Іх таты, мамы, бабулі і дзядулі, – таксама людзі цудоўныя. Пакуль вы недзе блукалі, я з імі ўсімі пазнаёмілася. Бачыце, вось гэтыя цацкі, што на

мне, дзеці самі зрабілі. Што стала прыемным сюрпрызам для мяне. Прыгожыя, праўда?

Г і р л я н д а. Вельмі.

Ш а р ы к. Надта.

В е р а н і к а. З табой, Шарык, і з табой, Гірлянда, я стану яшчэ прыгажэйшай! Дзеці будуць вельмі рады нам! (Знікаюць).

13.

Ёлачка Лера “пастаралася” так, што беднаму маленькаму Пяньку ніяк будзе не пералезці цераз увесь той лясны друз, з якога яна склала ледзьве не кітайскую сцяну.

Л е р а *(радуецца).* Цяпер я пагляджу, Пянёк, як ты трапіш да сваёй Ёлкі. Паспрабуй пералезці цераз увесь гэты паркан. Не атрымаецца. Будзеш ведаць, як перашкаджаць мне, лясной прыгажуні, дабівацца сваёй мэты ў жыцці. А мэта ў мяне адна – быць на свяце першай прыгажуняй, пацяшаць дзяцей, іх мамак, татак… І не на будучы год, а чым хутчэй. Ну, гэта я нешта разгаварылася… не ў той бок крышку павярнула сваю гамонку, схібіла трошкі… Але не перашкаджай тады мне зрабіць прыкрае нешта той Ёлцы, якая мне перабегла дарогу. Не перашкаджай. Зразумеў, Пянёк? Зразумееш, ды позна будзе. Позна будзе…*(Да гледачоў).* Я зараз схаваюся, пасмяюся, ад душы пацешуся, як ён, Пянёк, будзе тут піруэты рабіць. *(Схавалася).*

Уваходзіць Пянёк.

П я н ё к. Што гэта такое? Адкуль? Не было ж раней тут такой непраходнай і непралазнай сцяны. Хто б мог усё гэта зрабіць? І навошта?

Дзеці падказваюць.

П я н ё к. Ёлачка Лера? Так, так, зразумела. Як кажа дзядуля Лесавік, Лера-халера. Трапна ён яе назваў, вельмі!..

Л е р а *(паказалася).* Назаві хоць гаршчком, толькі ў печ не саджай! *(Схавалася).*

П я н ё к *(агледзеўся).* Хтосьці нешта сказаў ці не мне пачулася? Добра, паспрабую пералезці… (Спрабуе пералезці пра друз, але ў яго нічога не атрымліваецца. У адчаі лупцуе друз нагамі, злуецца).

Л е р а *(паказалася, гучна смяецца).* А што, атрымаў мой навагодні падарунак? Атрымаў? А ты як хацеў? Каб я ды даравала табе? Не выйдзе!.. Не бываць такому!..

П я н ё к. Ты самая кепская Ёлачка, якая, мусіць, толькі і ёсць на зямлі. І як яна, зямля, цябе такую трымае?

Л е р а. А так і трымае! Я ж не Пянёк, а Ёлачка!

П я н ё к. Але я ўсёроўна выратую сваю Ёлачку Вераніку, вось пабачыш. Мне дзядуля Лесавік дапаможа, а не ты… *(Румзае).*

Л е р а. Паплач, паплач: лягчэй стане.

П я н ё к. Пайшла прэч, паскудніца! *(Кінуў камяком снегу у Леру).*

Л е р а *(увярнулася).* Дзе ты толькі такіх слоў навучыўся, цікава мне?

П я н ё к. З кім павядзешся, ад таго і набярэшся.

Л е р а. А мне весела, а мне люба, я – Ёлачка, суседка Дуба!.. *(Знікае).*

14.

Баль. Ёлка Вераніка, на якой цяпер ужо мігціць Гірлянда і ззяе Шарык, спявае. Яна спускаецца са сцэны, ідзе паміж радамі, і радуецца, калі дзеці дакранаюцца да яе іголак, да цацак… Яна ахвотна дазваляе ім гэта зрабіць.

Новы год, Новы год!
Белы снег, як вата.
Каля Ёлкі карагод
Закружыла свята.

Скачуць заяц і ліса –
Добрыя суседзі.
Па палях і па лясах
Дзед Мароз прыедзе.

А гірлянды і шары
Ззяюць на галінках,
Бо прыйшла да дзетвары
Лепшая ялінка.

Паскараюць стрэлкі ход,
Нібы ў эстафеце,

Каб сустрэлі Новы год
Каля Ёлкі дзеці.

Хай і людзі, і звяры
Век жывуць у згодзе.
Хай жадаюць нам сябры
Шчасця ў новым годзе!..

15.

У лесе. Пянёк сумуе.

П я н ё к. Як там мая Ёлачка? Каб яна мяне пачула, я б ёй сказаў: я вельмі сумую па табе, вяртайся хутчэй у лес, Ёлачка Вераніка, да мяне.

Прыбягаюць Ёлачкі Алёнка, Кацька і Юлька.

А л ё н к а. А чаму толькі да цябе?
К а ц ь к а. А чаму?
Ю л ь к а. А чаму?
А л ё н к а. Мы яе таксама чакаем.
К а ц ь к а. Засумавалі ўжо па ёй і мы.
Ю л ь к а. Вяртайся хутчэй, Ёлачка Вераніка, у наш лес!
А л ё н к а. Ты чуеш нас?
К а ц ь к а. Ты чуеш?
Ю л ь к а. Ты чуеш?..

Танчаць і спяваюць. Запрашаюць на танец і Пянёк, ён спярша ўпарціцца, а потым пагаджаецца.

Мы – ёлачкі, мы – ёлачкі,
Зялёныя іголачкі,
Бо Новы год без Ёлкі,
Як нітка без іголкі.

Мы – ёлачкі пушыстыя,
Вясёлыя, іскрыстыя.
Калі без Ёлкі хата –
Няма наогул свята.

Уваходзіць Ёлачка Лера.

Л е р а. Што гэта ў вас тут за свята такое? Што за зборышча?
А л ё н к а. Пянёк, скажы ёй.
П я н ё к. Не скажу. Яна не любіць святы.
Л е р а. Чаму ж гэта я не люблю святы, Пянёк?
П я н ё к. А ты ў сябе самой папытай…

Уваходзяць Лесавік і Вераніка. Дзядуля вядзе Ёлачку пад руку, яе не пазнаць: адзенне на ёй старае, адно рыззе…

А л ё н к а. Хто гэта?
К а ц ь к а. Хто такая?
Ю л ь к а. Ты хто?...
Л е р а. А то вы не бачыце – хто? Гэта ж Ёлачка Вераніка такой стала.
Л е с а в і к. Сапраўды, гэта наша Вераніка. Я выпадкова сустрэў яе на сметніку…
А л ё н к а. На сметніку?
Л е с а в і к. Так.
К а ц ь к а. За што?
Ю л ь к а. Хто пасмеў так з ёй абыйсціся?
П я н ё к *( прытуліўся да Веранікі).* Мая, мая Ёлачка! .
Л е р а. Дык што гэта, і мяне чакае такі лёс на наступны год? Што, і я такой стану?
В е р а н і к а. Я піць хачу. Піць. Піць.
П я н ё к. Я цябе, Вераніка, напаю, і ты будзеш жыць. Я выратую цябе.
Л е р а. Аказваецца, усё не так, як я думала… Усё не так проста… Спярша бываюць святы, а потым пачынаюцца звычайныя дні… І мы, ёлачкі, аказваемся на сметніку… Даруй мне, Вераніка, за ўсё тое кепскае, дрэннае, што я хацела зрабіць для цябе… Даруй за маю чорную зайдрасць і нянавісць да цябе… Дзякуй усім, хто перашкодзіў, не дазволіў мне да канца ажыццявіць свае заганныя намеры…Дзякуй!..
В е р а н і к а. Што ж ужо цяпер?.. Не звяртайце на мяне ўвагі… Я проста стамілася…Хачу адпачыць…
П я н ё к. Пайшлі, пайшлі, Ёлачка, на сваё месца. *(Уводзіць Вераніку).*

Усе, хто застаўся на сцэне, спяваюць:

Жыла-была ў нас ёлачка,
Але зімой на баль
Да бліжняга пасёлачка
Паехала, на жаль.

Згубіла там іголачкі
Красуня пакрысе –
І ўбачылі мы ёлачку
На сметніку усе.

Галінкі, як асколачкі,
Дрыготкага святла,
Калі красуня-ёлачка
У нас жыла-была...

Л е с а в і к. Аднак хваляваццa не будзем! Чаго не ўбачыш, і скончыцца зіма, прыгрэе сонейка, пацякуць раўчукі... Цёплай стане наша зямелька, і я зноў пасаджу ў сваім лесе Ёлачку... Няхай расце яна, жыццю радуецца і дзетак радуе на навагоднія святы...

А л ё н к а. А мы будзем ёй песні спяваць.

К а ц ь к а. Каб хутчэй расла!

Усе знікаюць. Уваходзяць два акцёры.

П е р ш ы а к ц ё р. Вось такую гісторыю пра Ёлачку я і хацеў расказаць.

Д р у г і а к ц ё р. Мне спадабалася. Не ведаю, як дзецям?

П е р ш ы а к ц ё р. Бачыш, і ім таксама.

Д р у г і а к ц ё р. А мне цікава вось, што далей з Ёлачкай Веранікай было? Ну, пасля таго, як яна вярнулася зноў у лес? Амаль без іголак, стомленая, а? Што, што было з ёй? Кажы хутчэй!..

П е р ш ы а к ц ё р. На тое ж і казка, што ў казках усё добра канчаецца. Сапраўдны ж Новы ж год толькі яшчэ пачынаецца. І наша Ёлачка Вераніка недзе тут паблізу, мы яе зараз убачым... Яна збіраецца на свята. На навагодні баль. Паклічам яе?

Д р у г і а к ц ё р. Паклічам. Можа і дзеці нам дапамогуць?

П е р ш ы а к ц ё р. Вядома ж, дапамогуць. Калі яны адмаўляліся, дзеці?

Д р у г і а к ц ё р. Давайце, дзеці, паклічам Ёлачку.

Клічуць. Акцёры знікаюць. Уваходзіць Ёлачка Вераніка. Яна зноў зялёная, пушыстая…

В е р а н і ка. Добры дзень вам, хлопчыкі і дзяўчынкі! Я завітала да вас на навагодні баль.

Прыбягаюць Шарык і Гірлянда.

Ш а р ы к. І мы з табой, Ёлачка!
Г і р л я н д а. Больш не будзем блукаць адны ў лесе.
Ш а р ы к. Цяпер мы добра ведаем, дзе наша месца.
Г і р л я н д а. Толькі на Ёлцы. Ні на крок ад цябе.

Шарык і Гірлянда прытуліліся да Веранікі. Падыходзяць да яе і ўсе героі казкі.

В е р а н і к а. Засталося нам толькі дачакацца Дзеда Мароза і Снягурку і павіншаваць усіх, хто сабраўся ў гэтай зале, з Новым годам.

Уваходзяць Дзед Мароз і Снягурка.

Р а з а м. З Новым годам, сябры! З новым шчасцем!

Канец.

2009

# ДОБРЫ САНАЧНІК АЎГЕЙ,
## або Прыгоды перад Новым годам

Вершы Артура Вольскага

Дзейныя асобы:

А ў г е й .
А к с і н н я.
С а н к і.
А б ы ш т о ц і н а.
Г а ў - Г а ў.
Д р ы в а с е к.
П е в е н ь .

### Д з е я п е р ш а я

#### Карціна першая

У вясковай хаце. Усё тут сціпла, звычайна. Дзед Аўгей толькі што закончыў майстраваць санкі. Захапляецца імі і спявае:

Я майструю
Дзіва-санкі,
Дзіва-санкі —
Раскатанкі.
А ў тых санак
Палазы—
Два бліскучыя
Лязы.
Не стрымае
Іх адліга,
Не прыпыняць
Маразы.

Без падмогі
Дзіва-сані
На гару
Ўзлятаюць самі.
А як пусцяцца
З гары,
Не дагоняць
І вятры.
Вось якія
Дзіва-санкі
Я майструю
Вам, сябры!

А ў г е й. Вось якія ў мяне саначкі атрымаліся! Вось якія прыгожанькія, вось якія лёгенькія!.. Шкада, ох і шкада, людцы добрыя, што састарыўся я, спрыт ужо не той, а то б і

сам катаўся на гэтых саначках дзень і ноч, ноч і дзень. Але нічага, нічога – унучак мой прыедзе з горада, Васілёк, то не нарадуецца, жэўжык!

З'яўляецца Аксіння.

А к с і н н я (*хапаецца за галаву, нялюба*). І гэта ты, пень стары, хочаш сказаць мне, самай дасведчанай бабе на гэтай зямлі, што зрабіў добрыя, прыгожыя санкі?

А ў г е й. Так, так, мая Аксіннюшка. Добрыя... лёгкія... прыгожыя. Палюбуйся, дарагуша!

А к с і н н я. Эх ты, дажыўся ўжо да бязглуздства, зусім здзяцініўся, розум згубіў, бо ўжо нейкую абыштоціну не можаш адрозніць ад прыгожай рэчы. Ну, і хіба ж гэта санкі? *(Здзеклiва смяецца*). Ой, ратуйце мяне! ( *Спявае*):

Ох, і што ў мяне Абы што!
За дзед! Абы што!
Абібок Што не годна
І дармаед. Ні на што!
Што ні робіць, Ох, і дзед,
Выйдзе – што? Ну, і дзед,
Скажам шчыра: Абібок
Абы што. І дармаед!

З'яўляецца Абыштоціна.

А б ы ш т о ц і н а. А вось і я! Не чакалі? Ці мне пачулася? Ці мне падалося? А?

А ў г е й. Хто... хто такая?

А к с і н н я. І мне тое ж цікава...

А б ы ш т о ц і н а. Не чакалі. Бачу, бачу. А пра мяне, між іншым, гаварылі тут... толькі што...

А ў г е й. А хто ты такая?

А б ы ш т о ц і н а. Адгадайце, калі зможаце!

А ў г е й. Няма мне калі... абы чым займацца. Адгадваць я табе так і буду. Разагналася. Чалавек быццам бы не чалавек... што за абразіна, я ў цябе пытаюся? Пачакай, а дзеці мне не падкажуць? Дзеці, хто гэта? Не ведаеце? І я не ведаю. Вось гэта рэч. *(Абыштоціне).* Ну, прызнавайся тады хоць сама!

А б ы ш т о ц і н а ( *спявае):*

Я Абыштоцінай На нішто,
Завуся. На нішто

Гукніце—
Зараз жа з’яўлюся.
А як толькі
Я прыду
Вашу працу,
Вашу працу
На нішто,

Звя-ду!
Я й не дзедава,
Я й не цёціна,
Абыштоціна я,
Абыштоціна!
Абыштоціна я,
Абыштоціна!

А ў г е й. Першы раз чую. Адкуль дзеці маглі ведаць? Так, так.

А к с і н н я. Бачылі? Ён першы раз чуе. Дык гэта якраз тое і ёсць, што ты зрабіў. Абы  што.

А б ы ш т о ц і н а. Прыемна чуць пра сябе... х-ха-ха-а-а-а!

А ў г е й ( *строга*). Я зрабіў санкі! Прашу не блытаць!..

А к с і н н я. Не крычы, гарлапан стары. Не дзяры горла дарэмна: мне ўсё роўна не дакажаш, што гэта санкі.

А ў г е й. А што ж, калі не яны? Санкі. Вось гэтыя... самыя... яны і ёсць. І перастаньце мне, перастаньце!.. *(Прытупнуў нагой*).

А к с і н н я. Ой, людзі! І гэтую ... абыштоціну...

А б ы ш т о ц і н а. *(задаволена).* Так, так, мяне, Абыштоціну ...

А к с і н н я....ён называе санкамі?

А б ы ш т о ц і н а (*пакрыўджана*). Падбірайце словы, спадары. А я, прабачце, тут прычым? Я ж не вінаватая, што мяне нехта зрабіў...

А к с і н н я. А ты пакажыся, пакажыся яшчэ раз майму старому дурню.

А б ы ш т о ц і н а. Калі ласка! ( *Пакрыўлялася перад Аўгеем*). Я заўсёды рада старацца. Хіба мне цяжка?

Аўгей не глядзіць на Абыштоціну.

А к с і н н я.  А, бачыш, адвярнууўся, не хоча глядзець на цябе.

А б ы ш т о ц і н а. Мог бы і не рабіць мяне, дзед.

А ў г е й. Чаму гэта я адвярнуўся? Што, мне ўжо і глянуць, акрамя як на цябе, больш ні на што нельга?

А к с і н н я. Ды слова ты знойдзеш – адгаворышся. Язык падвешаны.

А ў г е й. Памаўчы, старая. Памаўчы.

А к с і н н я. Не забароніш.

А ў г е й (*Абыштоціне*). А ты дарэмна з'явілася, пачвара… І больш бабу маю слухай. Яна напляце табе бочку арыштантаў.

А к с і н н я. Чулі? Ну, і гэта пра мяне такую бязглуздзіцу гаворыць мой дзед Аўгей, якому я вару крупнік, пражу скваркі, цырую кашулю… Заслужыла.( *З іроніяй*). Дзякуй табе, мой старэнькі, мой бяззубенькі!..

А ў г е й. Завялася, завялася, малатарня! Пайшла ў разнос! Паехала-пакацілася! (*Гучна).* Стой, сказаў! Спыніся!

А к с і н н я. А я яшчэ не ўсё сказала.

А ў г е й. Потым дагаворыш. Потым.

А б ы ш т о ц і н а. А мне, стары, што загадаеш рабіць? Тут заставацца ці ўцякаць?

А ў г е й. Рашай сама. Дарослая.

А к с і н н я. Як гэта ёй рашаць? Х-х-хы! Сам зрабіў яе, а ёй – рашай? Х-хы!

А ў г е й. Маўчаць, я сказаў табе.

А к с і н н я. Ой, ой, так я цябе і баюся. А будзеш сварыцца на мяне, яшчэ і кухталёў надаю, дармаед!

А ў г е й. Ох, і злосная ж у мяне жонка! Ох, і шкодніца! На белае чорнае гаворыць, на чорнае—белае. Буду, буду перавыхоўваць, а што ж паробіш?

А к с і н н я. Позна мяне вучыць нечаму. Ды ад тваёй навукі асабліва не паразумнееш.

А ў г е й. Вось і пагавары з ёй. Мала, мала цябе жыццё, бачу, вучыла, хоць і век ,здаецца, пражыла.

А к с і н н я. Не паказвай мне больш санкі. Калі жыць хочаш!..

А ў г е й (*махнуў рукой*). Гавары не гавары… Пцьфу! Горш няма, калі твая баба лухту розную пляце.

А б ы ш т о ц і н а. Дык а што ж тады мне рабіць? Дзеці, можа вы падкажаце, што мне рабіць? Уцякаць? Ці заставацца тут, у гэтай цёплай, утульнай хаце?

Дзеці, вядома ж, хочуць, каб Абыштоціна знікла.

Ага, дык вы, значыць, так хочаце? А ці ўсе? Узніміце рукі. (*Пакрыўджана*). Добра. Я пайду. Мяне гоняць.

А к с і н н я. Не пойдзеш.

А ў г е й. А ты чаго да яе, пачвары гэтай, прычапілася?

А б ы ш т о ц і н а. Я, можа, толькі схаваюся? Але скажу вам па сакрэце: ненадоўга. Чаму, калі не хоча бачыць

мяне дзед, а хоча – баба, то я павінна не паслужыць інтарэсам апошняй?

А к с і н н я. Тады стой тут. Стой тады!..

А б ы ш т о ц і н а. Дык жа дзеці... просяць, каб мяне і блізка не было.

А ў г е й (*радасна*). А дзеці – разумныя істоты. Няроўня вам.

А к с і н н я. (*злосна*). Вось што, дзядуля! Хопіць захламляць мне хату рознымі санкамі! Дзе яны? Дзе яны? Дзе? (*Вырвала з рук дзеда санкі, выкінула на вуліцу*). Каціцеся-я-я! І чым далей, тым лепш! Доўга каціцеся-я-я!

А б ы ш т о ц і н а. Ура-а! А я засталася. Санак няма, а я – ёсць. Ура-а!

А ў г е й (*развёў рукамі*). А мне што сказаць застаецца? Таксама, мусіць: каціцеся і вы... Аксіннюшка мая і Абы... Абы...

А б ы ш т о ц і н а (*падказвае*). ... Абыштоціна.

А ў г е й (*з іроніяй*). Дужа прыемнае імя. Цудоўнае.

А к с і н н я. І куды загадаеш, лысая твая галава, мне каціцца?

А б ы ш т о ц і н а. А мне?

А ў г е й. Услед за санкамі.

А к с і н н я (*адштурхоўвае Абыштоціну*). Пачакай. Тут не да цябе. Гавары, стары! Слухаю! (*Трасе старога*). Што, язык праглынуў?

А ў г е й (*вызваліўся ад старой*). Табе гавары не гавары, а карысць адна. Рабі ўжо, што хочаш. Не буду пярэчыць. Толькі вось санкі шкада...

А к с і н н я. Не памрэш. Ён, бачыце вы, санкі шкадуе, а мяне, бабу сваю, не? А-бі-бок! (*Знікае*).

А б ы ш т о ц і н а. Пабягу і я. Пачакай , пачакай мяне, бабуля! (*Знікае*).

А ў г е й. Дзякаваць Богу – адзін застаўся. Ціха. Ажно не верыцца. Іншы раз дзеду някепска пабыць і аднаму. І што ж мне рабіць цяпер? Так, так, правільна... разумна... пайду санкі свае шукаць... шукаць з бяды выручаць. А баба мая няхай адна застаецца. Будзе знаць, як дзеда не паважаць. Пагляджу, як яна тады без дзеда жыць будзе. Пагляджу. Пакукуе. Але ж і таго не можа быць, каб яна, баба мая, у спакоі мяне пакінула. Мяне і санкі. Яна нешта задумала, старая. Тым больш што цяпер каля яе трэцца

гэтая пачвара... Абы... Абы... Абыштоціна. Тут калі на адну маю Аксінню якая назола зваліцца, яна нашкодзіць багата... а разам калі яны, то чакай тады, дзед, ліха на сваю галаву. Што ж, буду і я змагацца. Хопіць спаць у шапку. Хопіць цярпець знявагі! (*Выходзіць*).

Крадком з'яўляецца Аксіння.

А к с і н н я (*спалохана*). Няма? І што ён надумаўся рабіць, старэча? Яшчэ, чаго добрага, і праўда уцячэ, пакіне мяне адну? Гэтага нельга дапусціць. Каму ж я тады буду суп варыць, кашу? Як таго хочаце, але за санкі яму я ўсё роўна адпомшчу. Будзе ведаць, як не слухацца бабу. (*Знікае*).

## Карціна другая

Будан каля дрэва. У ім жыве сабака ГАЎ-ГАЎ. Санкі з усяго разгону ўрэзаліся ў будан, адкуль, спалохаўшыся, выскачыў Гаў-Гаў.

Г а ў - Г а ў. Гаў-гаў! Гаў! Ну і жыццё! Паспаць спакойна і тут, у дзікім лесе, не даюць. З горада вытурылі... З-пад куль ледзь уратаваўся. Адстрэльвалі усіх бадзяг. Спярша, праўда, мяне гаспадар прагнаў: самому, кажа, няма чаго есці. Абжора. (*Здзіўлена*). Санкі?

С а н к і. Санкі. Ага. Новенькія.

Г а ў - Г а ў. Прыгожыя якія! Не тое, што я... рыжы, кудлаты...

С а н к і (*співаюць):*

Слаўны саначнік-дзед
Змайстраваў мяне як след.
Хоць па снезе,
Хоць па лёдзе
Я імчуся-слізгачу.
Нават вецер,
Нават вецер
Абганю,
Як захачу.
Бо я санкі,
Дзіва-санкі,
Дзіва-санкі--
Раскатанкі.
Змайстраваў мяне як след
Добры саначнік-дзед.

Г а ў - Г а ў. А якім чынам ты тут аказаўся?

С а н к і. Вельмі проста. Дзед зрабіў мяне, а баба-злюка—выкінула. Я-та што—не прападу, як-небудзь пражыву. Толькі дзеда шкада. Аўгея. Добры ён саначнік, дзед Аўгей. Рукі ў яго пяшчотныя, цёплыя.

Г а ў - Г а ў. Санкі, відаць, дрэнны чалавек зрабіць не можа.

С а н к і. Не ведаю. Пэўна, так.

Г а ў - Г а ў. Чаму ж тады лыпаеш вачыма?

С а н к і. А чым мне ... лыпаць?

Г а ў - Г а ў (*падаў Санкам лапу*). Мяне, дарэчы, Гаў-Гаў завуць.

С а н к і. А я проста... Санкі.

Г а ў - Г а ў. Пабеглі дзеда абараняць. Не дадзім яго ў крыўду.

С а н к і. Я... я не ўмею бегаць. Я слізгаю толькі палазамі па снезе, па лёдзе.

Г а ў - Г а ў. Гэта яшчэ і лепш, гаў-гаў. Чапляйся за мой хвост—не прападзеш. Будзе снег, не будзе – дарогу знойдзем. Гаў!

С а н к і. А дзе твой хвост?

Г а ў - Г а ў. А гэта – што? (*Падаў Санкам хвост*). Шнурок хіба? Хвост. Самы сапраўдны. Прывязвайся.

С а н к і. Не ўмею.

Г а ў - Г а ў. Ты, я бачу, няўмека. Зусім не прыстасаваны да жыцця. (*Прывязаў Санкі да свайго хваста*).

С а н к і. Я яшчэ і не паспеў нічаму навучыцца. Мяне зусім нядаўна дзед зрабіў.

Г а ў - Г а ў. А мяне жыццё паспела ўжо так пацерці, што і ваўку не пажадаеш. Ды што скардзіцца? Каму? Навошта? Гэта, мусіць, у мяне такі лёс... сабачы. Хто нас дзе пачуе у гэтым глухім, захламленым лесе? А стамлюся калі, то я на цябе ўзбяруся, ці з горкі дзе... і паедзем! Дзеда ратаваць!

С а н к і. Дзеда Аўгея, добрага саначніка!

Знікаюць.

Карціна трэцяя

У хаце з'яўляюцца Аксіння і Абыштоціна.

А к с і н н я. Няма?

А б ы ш т о ц і н а. Няма...

А к с і н н я. І куды ж ён, стары небарака, падзеўся, мне цікава?

А б ы ш т о ц і н а. І я не ведаю... не магу падказаць, шаноўная бабуля.

А к с і н н я. Няўжо гэта ён і на самой справе драпануў ад мяне? Яго трэба вярнуць, чаго б гэта нам не каштавала. А як? *(З іроніяй).* Не падкажаш, прыгажуня?

А б ы ш т о ц і н а. Каб вярнуць, яго ж трэба спярша знайсці, так? ( *Страецца , каб не ўбачыла Аксіння, нешта ўкінуць з ежы ў рот ; на стале можна знайсці тое-сёе).*

А к с і н н я. Вярнуць, паставіць на калені... на гарох і прымусіць папрасіць прабачэння. У мяне. Х-ха-ха! А ў каго ж яшчэ? Каб старому жыццё мёдам не здавалася. Каб ведаў, як не слухацца мяне. Сказала, кепскія санкі, значыць—кепскія! І ні кроку назад!

А б ы ш т о ц і н а. Так, так. Разумна. Вельмі нават. Арыгінальна. Вернем. Як міленькага. Гавары, гавары хутчэй, што рабіць трэба. У мяне рукі свярбяць. Ух і свярбяць! Прама месца не знаходзяць! Так і просяцца ў бой!..

А к с і н н я. І вярнуць абавязкова без санак. Санкі мне тут не патрэбны, бо ён, дурань стары, зрабіў іх насуперак маёй волі. А гэтага дараваць яму я ніколі не змагу. Без санак! Я так хачу. Я! А маё слова – закон. І ты, прыгажуня, у гэтым мне павінна дапамагчы. Спадзяюся на цябе, сябровачка. (*Хітра-лісліва*). Помніць буду доўга дабрыню тваю.

А б ы ш т о ц і н а. Рада старацца. Тым больш, што ты, бабуля, мяне назвала прыгажуняй. Мяне так ніхто раней не называў. Я, прызнацца табе, бабулечка, дужа ўдзячна за правільныя, разумныя словы. Усё, што папросіш, я для цябе зраблю. Ісці мне? Пара? Дзеда шукаць?

А к с і н н я (*у бок*). Чаму ж не назваць абразіну прыгажуняй, калі яна табе можа спатрэбіцца? Хіба цяжка? (*Абыштоціне*). Слухай мяне уважліва. Без мяне, адна, ты нічога не зробіш.

А б ы ш т о ц і н а. Так, так. Я заўсёды...

А к с і н н я. Зараз я дам табе клубок... (*Корпаецца ў кішэні, але доўга не можа яго знайсці, ён праваліўся некуды далёка*). Ёсць, ёсць, не хвалюйся. Як ведала, што спатрэбіцца. Шмат гадоў берагла. Адзін разумны чалавек даў. Для дзеда. Каб вярнуць яго калі-небудзь. Бо адчувала, што ўцячэ ад мяне, паразіт. Выбера зручны момант—і

шасне, і гарцане! Хіба ж я сама не ведаю пра сябе, што я за цаца? Але каму прызнаешся? А то што ж ён, стары, захацеў мяне адну пакінуць? А хто ж мяне карміць будзе? Які дурань? *(Нарэшце дастала клубок, падала Абыштоціне*). Трымай. І слухай мяне ўважліва, прыгажуня. Кінеш клубок на зямлю і услед за ім ідзі, толькі моцна трымайся за кончык ніткі. А выпусціш нітку, з'явіцца другі клубок, і ты не будзеш ведаць, за якім бегчы. Зразумела?

А б ы ш т о ц і н а. Навука не надта хітрая.

А к с і н н я. Але ж слухай мяне далей. Дзеду я солі на хвост абавязкова павінна насыпаць. Хоць у яго і хваста няма.

А б ы ш т о ц і н а. А ў мяне вуса няма, але на вус матаю. Так-так, далей. Слухаю.

А к с і н н я. Для таго, каб дзед Аўгей паслухаўся цябе, як знойдзеш яго, трэба сказаць настуныя словы: клубок-клубок, а цяпер разам з дзедам скок-паскок у хатку-дамок, пацалуй дзверы, пацалуй замок...

А б ы ш т о ц і н а. І ўсё? Хіба ж цяжка запомніць?

А к с і н н я. Паўтары, паўтары, прыгажуня. А то сапсуеш усю справу.

А б ы ш т о ц і н а (*паўтарае,але блытаецца*). Клубок... каціся... з дзедам...

А к с і н н я. Вось бачыш, няўважліва слухала. Не каціся, а скок-паскок... І тады ты ўбачыш, як мой дзед Аўгей будзе скакаць да мяне хутчэй ветру то на адной назе, то на другой, то на абодвух адразу.

А б ы ш т о ц і н а (*смяецца*). Уяўляю! Вось клёва будзе! Слухай, бабуля, паўтараю: клубок-клубок, а цяпер разам з дзедам дамоў скок-паскок... пацалуй дзверы... пацалуй замок...

А к с і н н я. Бяжы, бяжы. З Богам!

А б ы ш т о ц і н а (*кінула перад сабой клубок, той пакаціўся*). Чакай нас, бабуля! З дзедам! Распальвай самавар!

А к с і н н я *(бурклівa*). Хочаш не хочаш, а клубок сам цябе прывядзе, галуба, да мяне. Разам з дзедам. Вы цяпер усе ў маім палоне. Х-ха-ха-ха-а-а-а! Няма такога яшчэ чалавека, які б мяне, бабу Аксінню, абхітрыў. І без самавара абыдзешся. Не вялікая шышка. А санкі дзед Аўгей і праўда добрыя зрабіў. Але наперакор мне. Таму яны і самыя што ні

ёсць кепскія: крывыя, непагабляваныя, адзін полаз карацейшы, другі даўжэйшы... Будзе ведаць, як не слухацца мяне, пень стары! Сам і бліны ў мяне будзе смажыць! І кашку-малашку варыць! Х-ха-ха-ха-а-а-а! (*Знікае*).

Карціна чацвертая

У лесе. Гаў-гаў і Санкі . У руху.

С а н к і. Гаў-гаў, а як мы дапаможам дзеду Аўгею? Не ведаеш ты бабы яго. Злюка. Скнара. Я хоць і мала яе бачыў, але,здаецца, раскусіў. Яна і на парог нас не пусціць.

Г а ў - Г а ў. А той жа парог – і твой?

С а н к і. Быццам бы так...

Г а ў - Г а ў. Ты ж не ў сапраўдным радзільным доме нарадзіўся, а ў майстэрні дзеда Аўгея. А кожнага цягне туды, дзе ён на свет з’явіўся. Маеш права заўсёды пабываць на сваёй малой радзіме.

С а н к і. Маю, здаецца.

Г а ў - Г а ў. А дзе я нарадзіўся, дык ніхто і не помніць. Тым больш я сам. Гэта каб мы адразу дарослымі нараджаліся. Э-хе-хе! Ці была ў сабакі хата? А дадому цябе, Санкі, не пусціць не маюць права. Спалохаўся бабы там нейкай! За нагу цапну-- і толькі ўбачыш тую бабу! Заходзь куды хочаш. Не стаміліся, Санкі?

С а н к і. Не,не: мне лёгка !

Г а ў - Г а ў. Таму што дадому ідзем.

С а н к і. А ведаеш, Гаў-Гаў, я бачу, што наперадзе... За гарой, за дрэвамі... Я там ніколі не быў, а бачу...

Г а ў - Г а ў. Шчаслівы. Гару нейкую бачыш... што за ёй... А я, акрамя косткі,– нічога. Перад вачыма вісіць костка...

С а н к і. І больш нічога?

Г а ў - Г а ў. Не хлушу. Хочаш вер, хочаш не. Адну костку бачу. Вялікую-ю развялікую! Эх, мне б яе зараз! Я б табе даў панюхаць. Пачакайце, Санкі!

С а н к і. Я слухаю цябе, Гаў-Гаў. Мне з табой добра, хоць я цябе і мала ведаю.

Г а ў - Г а ў. Сабакі таксама добрыя бываюць. Калі з імі па-добраму. За гарой, якую ты бачыш, дзеда не відаць нідзе?

С а н к і. А дзеда не бачу. Шкада.

Г а ў - Г а ў. Бывае. Іншы раз бачыш тое, што не трэба.

Насустрач ім выкаціўся клубок.

Клубок? (*Падняў клубок*). Адкуль ён тут, у лесе? І нітка... Згубіў хто яго ці як разумець?

С а н к і. Круглы. Як шар.

Г а ў - Г а ў. А куды ж нітка цягнецца? (*Цягне нітку на сябе, і падцягвае Абыштоціну*). Гаў! Гаў!.. Ты – хто?

А б ы ш т о ц і н а. Прыгажуня.

Гаў-Гаў і Санкі смяюцца.

Г а ў - Г а ў. А хто ж тады я, калі ты прыгажуня? Насмяшыла, х-ха-ха-а-а-а!

А б ы ш т о ц і н а. Не ведаю... Па пашпарту я Абыштоціна, а вось баба Аксіння мяне называе прыгажуняй. Дык хто я на самой справе – і сама не ведаю. А што, не спадабаюся? Мужыкі!

С а н к і. Я ведаю, хто гэта. Гэта тое стварэнне, якое ўявіла баба Аксіння замест мяне, Санак. Абыштоціна. Так, так, яна не хлусіць. Такой пачварай баба і хоча бачыць мяне...

А б ы ш т о ц і н а (*паляпала Санкі па шчацэ*). А-а, прыгажунчык! Таксама мой знаёмы. Толькі Санкі сябруюць з дзедам, а я – з бабай. Вось і ўся розніца.

Г а ў - Г а ў. Куды шлях трымаеш? Гаў!

А б ы ш т о ц і н а. Асцярожней, не парві, шчанё, нітку. Мая нітка.

Г а ў - Г а ў. Гаў-гаў! Апошні раз гаўкаю. Адказвай. Адказвай! Гаў!

А б ы ш т о ц і н а (*спалохалася*). Ой! Ой!.. Здаюся. Толькі не кусайся, шчанё. Мне балець будзе. Гуляю. Сама па сабе.

С а н к і. Яна хлусіць !

Г а ў - Г а ў. Сам бачу, не дурань. Гаў! Я цябе папярэджваў? Папярэджваў. А цяпер сцеражыся ў мяне! Разарву ў пух і пер’е! (*Ловіць Абыштоціну, тая ўцякае*). Я з табой адзін спраўлюся! Хопіць мазгі пудрыць сабакам! Не на

таго напала! Санкам—стаяць! Працую адзін на адзін! Каб чэсна і сумленна!

А б ы ш т о ц і н а. Чаго ты да мяне прывязаўся, гаўкала? Не сорамна дзяцей крыўдзіць? Наша будучае?

Г а ў - Г а ў. Гэта ты—дзіця? Наша будучае? Ты?

А б ы ш т о ц і н а. Я! Я!

С а н к і. Насмяшыла-а! Х-ха-ха-а-а-а! Ой, не магу!

Г а ў - Г а ў (*злавіў Абыштоціну*). Папалася! А цяпер адказвай, куды з клубком каціласе?

А б ы ш т о ц і н а. Здаюся. Здаюся.

Гаў-Гаў адпусціў Абыштоціну. Побач з ёй з' явіўся другі клубок. Яна падняла яго.

Цяпер мне ўсё роўна... вось яны, два клубкі... Які вядзе да дзеда, які не вядзе да яго – паспрабуй тут разбярыся.

С а н к і (*узрушана*). Да дзеда? Да добрага саначніка дзеда Аўгея?

А б ы ш т о ц і н а. А да якога ж яшчэ? Да яго, справа вядомая.

С а н к і. Дзе ён? Дзе? І што з ім зрабіла злосная баба Аксіння? Ты ведаеш, Абыштоціна?

Г а ў - Г а ў. Адказвай, пакуль не пакусаў. Гаў!

А б ы ш т о ц і н а. Сакрэтаў вялікіх не ведаю. І ніхто не ведае. Бо няма дзеда. Няма. Дзе ён – вялікая тайна.

Г а ў - Г а ў. Што, яе і разгадаць нельга?

С а н к і. Ага!

А б ы ш т о ц і н а. Добра ўжо, паддамся. Можа так лепш будзе і дзеду, і мне, і вам. Вось вам два клубкі. Адзін вазьму я, адзін аддам вам. Я не ведаю, які, але адзін, калі верыць бабе Аксінні, прывядзе да дзеда Аўгея. Толькі не выпускайце з рук нітку. Выпусціце—з'явіцца яшчэ адзін клубок, як вось толькі што з'явіўся ў мяне... і вы не будзеце ведаць, куды ісці, за якім клубком... Заблытаецеся.

С а н к і. Добра. Няхай будзе так.

Г а ў - Г а ў. А калі хлусіш, калі абвядзеш мяне вакол лапы?

А б ы ш т о ц і н а. Век свабоды не бачыць. Тут каму пашанцуе. Пакацілі, пакацілі клубкі. Не бойцеся. Вы мне нечым спадабаліся. З вамі я. З вамі. Навошта мне тая

старая торба? За ёй толькі добра ў галалёд хадзіць... (*Кінула клубок, той пакаціўся. Знікае*).

С а н к і. А мы чаго стаім, Гаў-Гаў?

Г а ў - Г а ў ( *гучна, каб пачула Абыштоціна*). Запомні: тут сустракаемся-я! Тут! Ці чуеш, Абыштоціна?

Г о л а с А б ы ш т о ц і н ы (*абыякава*). Чую, чую!..

Гаў-Гаў і Санкі здзіўлена пераглянуліся:абхітрыла? Але і самім цікава, што будзе далей. І кінулі на зямлю клубок...

Зацямненне.

Карціна пятая

У лесе. Дрывасек сядзіць на пні і палуднае.

Д р ы в а с е к. Прыгожа наўкола. Зіма. Сняжок бялюткі, як вата. А яшчэ прыгажэй было б на зямлі, каб дзень быў хоць трошкі даўжэйшы. А то не паспееш воз дроў насячы, а ўжо і цёмна—хоць вока выкалі. І сонейка не свеціць—як вось і сёння. А каб яно свяціла, то сняжок іскрыўся б – прыгажосць! Ну што, пара за сякеру? Пара, а то, чаго не ўбачыш, і дзень скончыцца... ( *Паклаў у торбачку недаедак, узяў сякеру ).*

З’яўляецца дзед Аўгей.

А ў г е й. Бог у помач!

Д р ы в а с е к. Дзякуй, добры чалавек. Куды шлях трымаеш, калі не сакрэт?

А ў г е й. Сакрэту няма. А шлях трымаю я туды, куды пабеглі мае Санкі. Бяда ў мяне...

Д р ы в а с е к *(насцярожыўся*). Бяда? І што ж такое здарылася?

А ў г е й. Зрабіў я Санкі, а бабе сваёй не дагадзіў... суперак яе волі пайшоў, яна і выкінула іх. А пакаціліся яны, сам бачыў, вось у гэты лес. Ды і сляды былі ў лесе, паміж дрэў, а тады пайшоў снег і прыцерушыў іх.

Д р ы в а с е к. Не сустракаў, хоць і даўно я тут ужо дровы нарыхтоўваю.

А ў г е й. Што ж, пайду далей... пакуль цёмна не стала ў лесе, трэба іх знайсці, а то яны, Санкі, зусім яшчэ дзіця...

будуць баяцца цемры... А там яшчэ ваўкі галодныя пачнуць на іх катацца... мала таго, што да смерці напалохаюць Санкі, то і натомяць іх.

Д р ы в а с е к. Не ведаю, чым дапамагчы табе, добры чалавек?

А ў г е й. А чым ты, Дрывасек, дапаможаш?

Д р ы в а с е к. А калі раптам сустрэнуцца мне Санкі, што ім сказаць?

А ў г е й. А тое і скажы: дзед Аўгей іх шукае.

Д р ы в а с е к. Будзе зроблена. Перадам. Ага. Але хай табе пашанцуе.

А ў г е й. Дзякуй. (*Ідзе далей*).

Д р ы в а с е к ( *замахнуўся на дрэва сякерай, але перадумаў сячы, услед дзеду Аўгею*). А навошта... навошта табе тыя Санкі, дзед? Хутчэй новыя зрабіць можна, чым поўзаць па снезе, шукаць, а?

А ў г е й (*спыніўся, павярнуўся да Дрывасека*). Не саначнік ты, хлапец... а дрывасек. Гэта я і бачу. Сячы лес на дровы—адна справа, а вось з того лесу рабіць прыгожыя рэчы—зусім іншая. Пакуль, гляджу, ты мяне не разумееш.

Д р ы в а с е к (*шчыра*). Не разумею, дзед. Хоць забі мяне,а не разумею.

А ў г е й. Санкі для мяне—як дзіця. А дзіця сваё ў лесе чалавек не пакіне.

Д р ы в а с е к. Гледзячы які чалавек. Вунь у газетах пішуць... не паспеюць нарадзіць, а пакідаюць... то ў скрыні са смеццем... то на ганку...

А ў г е й. Я ж кажу: чалавек. А то не людзі, не... То нелюдзі.

Д р ы в а с е к ( *рашуча кінуў вобзем сякеру*). А пачакаюць гэтыя дровы! І я з табой. Пайшлі разам шукаць санкі.

Знікаюць.

## Д з е я д р у г а я

### Карціна шостая

У хаце. Баба Аксіння нервова ходзіць па пакоі, раз-пораз прыстаўляе да ілба руку картузікам: углядаецца...

А к с і н н я. Ну, і дзе ж яна шлындае, тая Абыштоціна? Не было ў мяне веры да яе. Не было-о. Так і ведала, што не знойдзе яна майго дзеда. Нюху не мае. *(Раптам*). Пачакайце! Пачакайце, людцы! А яна не можа, выпадкова, Аўгея майго прыбраць да рук, а? Хоць і з выгляду абы - што, але ж маладзейшая, зубы ўсе мае, ні тое, што я. Што ж я тады буду без дзеда свайго рабіць? Каму кашу варыць? На каго сварыцца? На каго, паўтараю для самой сябе, сварыцца я буду? А лепш, чым з маім дзедам, і палаяцца няма з кім! Нешта трэба рабіць! Нешта трэба рабіць!.. Ой, божачкі! Вось трапіла ў сітуацыю дык трапіла! (*Знікае).*

Карціна сёмая

Гаў-Гаў і Санкі на лясной палянцы.

Г а ў - Г а ў. Клубок наш, Санкі, зусім пахудаў, а дзеда знайсці не можам.

С а н к і. Ён, мабыць, нас шукае, а мы – яго?

Г а ў - Г а ў. Костачку б! Цукровую! Г...гаў!

С а н к і. А мне дзеда пабачыць хочацца...

Г а ў - Г а ў. Добра табе, Санкі: есці не трэба.

С а н к і. Яшчэ ніколі нічога не еў.

Г а ў - Г а ў. І не пачынай. Не раю. Адзін раз паспрабуеш што-небудзь смачненькае пракаўтнуць—і пачнецца... тады і думай толькі пра ежу. Не будзеш паспяваць новыя дзірачкі ў рамяні рабіць... ( *Заўважыў Абыштоціну, якая спіць непадалёку* ). Гаў!

С а н к і. Што здарылася, Гаў-Гаў?

Г а ў - Г а ў. А паглядзі, паглядзі!

С а н к і (*углядаюцца*). Спіць... нехта?

Г а ў - Г а ў. Не нехта, а тая, што памелася дапамагчы нам дзеда Аўгея шукаць. Гаў! Гаў!..

Падыходзяць да Абыштоціны.

Гаў!

А б ы ш т о ц і н а ( *пацягнулася*). А, гэта вы, жанішкі. Добрай раніцы.

Г а ў - Г а ў. Якой табе раніцы? Яшчэ дзень не скончыўся. Спаць меней трэба, памочніца.

А б ы ш т о ц і н а. Стамілася – паратунку няма. І клубок недзе згубіла...

С а н к і. Ну, вось!

Г а ў - Г а ў. Спі. Ты нам не трэба.

А б ы ш т о ц і н а (*усхапілася*). Як гэта не трэба? А каму трэба? Ого, як яшчэ трэба я!

Г а ў - Г а ў. Ды каму ты яшчэ трэба, Абыштоціна? Хто цябе дзе чакае?

А б ы ш т о ц і н а. Як? Чаму? Хто сказаў?

С а н к і. Эх, ты! Раз папрасілі памагчы і тое паленавалася.

А б ы ш т о ц і н а. Больш не буду. Не хлушу. Даруйце. Толькі не кідайце мяне адну ў лесе.

Г а ў - Г а ў. А навошта ты нам?

С а н к і. Пайшлі далей, Гаў-Гаў. Ужо нітка кароткая ... вось-вось і дзеда павінны сустрэць.

Г а ў - Г а ў. Калі ён сам да нас не спяшаецца?

С а н к і. І ў мяне такое адчуванне, быццам дзед Аўгей да нас ідзе.

А б ы ш т о ц і н а. Цяпер і баба мяне не пусціць і на парог, бо ні дзеда, ні клубка ў мяне. І вы гоніце.(*Раптам патрабавальна*). Вярніце клубок! Вярніце!

Г а ў - Г а ў. Не можам вярнуць табе клубок, шаноўная. Не можам.

С а н к і. У цябе быў свой. Не мелася такой дамовы ў нас, што мы павінны вярнуць табе клубок, калі ты свой згубіш.

Г а ў - Г а ў. Ага. Гаў-гаў!

А б ы ш т о ц і н а. Твой. Мой. Каб ні я , то у вас яго б, клубка, зусім не было.

Г а ў - Г а ў. Добра, угаварыла. Возьмем яе, Санкі, з сабой. А то замерзне ноччу ў лесе.

А б ы ш т о ц і н а. І ваўкоў баюся. Вой-вой-вой! (*Трымціць).* Што загадаеце, тое і зраблю. Загадвайце. Загадвайце, загадвайце!

С а н к і (*узрадавана*). Ура-а! Ура-а-а! Дзед Аўгей знайшоўся! (*Кінуўся насустрач дзеду).*

А б ы ш т о ц і н а. Ура-а-а!

Г а ў - Г а ў. А ты чаго крычыш, Абыштоціна?

А б ы ш т о ц і н а. За кампанію. Радуюся, а як жа! Я ж таксама гэтага дзеда шукала. Толькі не знайшла. А хто яго

знайшоў? Вы хіба? Дык не ж—сам знайшоўся. Бачу, бачу: вунь ён, вунь!

Г а ў - Г а ў. Гаў! Спала, дрыхла, а цяпер прымазваешся, хітранькая?

А б ы ш т о ц і н а. І нічога я не прымазваюся, а маю заданне ад бабы Аксінні знайсці дзеда жывым і непашкоджаным і даставіць яго дамоў.

Г а ў - Г а ў. Гэта як мы табе дазволім. Не дадзім дзеда ў крыўду.

А б ы ш т о ц і н а. Можна падумаць, што я некалі хацела яго пакрыўдзіць? Хто прыдумаў такую дзікую лухту? Смешна нават. Хм!..

З'яўляюцца Санкі, дзед Аўгей і Дрывасек. Яны узрушаныя, радасныя.

С а н к і. Вось мой дзядуля! Гаў-гаў, бачыш?

А ў г е й. Дзед. Так, так.

Г а ў - Г а ў. Бачу.(*Глыбока ўздыхнуў*). Табе, Санкі, добра… і есці не трэба, а цяпер вось і дзед знайшоўся. А мне куды? Лепш мы б з табой яшчэ разам блукалі па лесе – вось было б здорава!

А ў г е й. Што-небудзь абавязкова можна прыдумаць, каб усім было добра.

А б ы ш т о ц і н а. І мне?

А ў г е й. І табе. Усім.

А б ы ш т о ц і н а. Цябе, дарэчы, баба шукае. (*Загадкава*). Таму аднаму з нас усё ж добра не будзе…

Г а ў - Г а ў (*Абыштоціне*). Ты на што гэта намякаеш? Гаў!

А б ы ш т о ц і н а. Чаго ты да мяне прычапіўся? Хоць што з цябе возьмеш – сабака ён і ёсць сабака.

С а н к і (*заступаецца).* Ён вельмі добры сабака.

Г а ў - Г а ў. Я добры сабака. Гаў! І галодны… Мне б костачку.

А ў г е й. Знойдзем, знойдзем табе і костачку, Гаў-гаў.

Г а ў - Г а ў. Вось дзякуй табе, дзед, на добрым слове. Гаў! А чаму гэты чалавек з сякерай маўчыць і маўчыць?

Д р ы в а с е к. А з кім у лесе мне размаўляць асабліва было? Усё адзін ды адзін. Хіба толькі вось з ёй, з сякерай, і

размаўляем. Ды яшчэ з дрэвамі. Так і жыву: усё моўчкі ды моўчкі. Не адукаваўся гаварыць.

А ў г е й. Сябры мае! Як добра, што ўсё так добра скончылася...

А б ы ш т о ц і н а. Хіба? Няўжо? А што ж мне бабе Аксінні сказаць? Хто параіць? Выпадкова, дзед, не ты?

А ў г е й. Не ведаю, што ў цябе з маёй старой за агульныя справы, але дам адну карысную параду...

А б ы ш т о ц і н а. Давай. Слухаю.

Г а ў - Г а ў. Можа і мне тое цікава будзе? Гаў!

А ў г е й. Кожны з нас мае галаву на плячах. Нават мае Санкі. І кожны павінен думаць сам... сваёй галавой, што яму рабіць, як жыць.

А б ы ш т о ц і н а. І ніколі нікога не слухаць?

Д р ы в а с е к. Разумных людзей заўсёды трэба слухаць...

А б ы ш т о ц і н а. Адкуль жа мне ведаць, хто з вас разумны, хто – дурань?

А ў г е й. Таму трэба ўсіх слухаць, а жыць сваім розумам.

А б ы ш т о ц і н а. Во як!

Г а ў - Г а ў. Гаў! А ты як думала?

С а н к і. Ну, і што рабіць будзем, дзядуля?

А ў г е й. А што -небудзь прыдумем.

А б ы ш т о ц і н а. Сумна-а! Адзінока! Усе вы зараз разбрыдзецеся хто куды, а хто дзе мяне, акрамя бабы Аксінні, чакае?

Г а ў - Г а ў. У той бабы, адчуваю, ты сваё атрымаеш. Рыхтуйся. Гаў!

А б ы ш т о ц і н а. А сам куды папрэшся, бяздомны, аблезлы? Хто б гаўкаў!

А ў г е й. Ну-ну, не сварыцеся. І нікуды мы пакуль не пойдзем. Будзем разам у лесе жыць.

А б ы ш т о ц і н а. Ура-а!

А ў г е й. Не трэба радавацца. А будзем жыць таму, што павінны дапамгчы адзін аднаму. Санкі!

С а н к і. Я, дзядуля.

А ў г е й. Гаў-Гаў!

Г а ў - Г а ў. Слухаюся, дзед Аўгей!

А ў г е й. Вам баявое заданне, сябры мае: Дрывасека будзем у першую чаргу выручаць, бо пакуль ён мне

дапамагаў шукаць Санкі, у лесе зрабілася цёмна і ён не паспеў нарыхтаваць дроў.

А б ы ш т о ц і н а. Я толькі сучкі магу ламаць...

Г а ў - Г а ў. Памаўчы ты, Абыштоціна.

Д р ы в а с е к. Сучкамі маю хату не нагрэеш.

А ў г е й. А ноччу хто дровы нарыхтоўвае? Хіба што злодзеі?

Д р ы в а с е к. Мы – не, мы не такія. У мяне нарад ёсць. Чын па чыну. (*Паказаў паперку*). Законная паперка!

А ў г е й. Таму нам трэба вярнуць дзень назад.

Г а ў - Г а ў. Дзень вярнуць? Назад? А хіба такое магчыма?

А б ы ш т о ц і н а. Першы раз чую...

А ў г е й. Паедуць зараз Гаў-Гаў і Санкі і прывязуць нам дзень.

А б ы ш т о ц і н а. Адкуль? Адкуль яны прывязуць яго, калі ўсюды так цёмна, так страшна?

А ў г е й. Ну, Санкі і Гаў-Гаў, у добры шлях! (*Нешта шэпча ім на вуха*). Чакаем вас. Спадзяемся, што не падвядзеце.

С а н к і. Не падвядзем!

Г а ў - Г а ў. Будзьце ўпэўнены! Г... гаў!

Знікаюць.

А б ы ш т о ц і н а (*бяжыць услед*). А я-я-я?! (*Знікае*).

А ў г е й. Няхай бяжыць. Што б ні рабіў чалавек, але гэта лепш, калі зусім нічога не робіш. Пачакаем?

Д р ы в а с е к. Пачакаем. А я, пакуль тое ды іншае, сякеру навастру. (*Дастаў брусок, сеў на пянёк, вострыць*). Быццам бы і дроў сёння не насек, а затупілася сякера: старая таму што. Новую трэба купляць у краме. Новую.

А ў г е й. Не буду і я без справы сядзець – пабягу глыбей у лясок, там я, калі светла было, падабраў колькі штук бярозак роўненькіх ды лёгенькіх. Як толькі скончацца ўсе гэтыя прыгоды -- выстругаю яшчэ адны санкі, тым санкам маім брат трэба, удвух весялей ім будзе.

Д р ы в а с е к. Утрох, утрох ім весялей будзе. Ці я памыліўся?

А ў г е й. Не. Ты, Дрывасек, не памыліўся: хопіць месца на маім падворку і сабаку Гаў-Гаў.

Д р ы в а с е к. І я б яго ўзяў, але ж, бачу, дужа пасябраваў Гаў-Гаў з тваімі Санкамі.

А ў г е й. І я гэта заўважыў.

Д р ы в а с е к. А куды ж падзенецца тая Абыштоціна, якую твая баба прыдумала?

А ў г е й. А вось гэта мы і папытаем у яе, у старой. (*Знікае).*

Д р ы в а с е к. Папытай, папытай, дзед Аўгей. ( *Вострыць сякеру і спявае песню).*

З'яўляецца Аксіння.

А к с і н н я. Нешта ты, Дрывасек, сумную песню спяваеш?

Д р ы в а с е к. А няма чаго весяліцца.

А к с і н н я. А мне што – весялей?

Д р ы в а с е к. Не ведаю як каму... А я ў лес прыехаў за дровамі, а дроў не нарыхтаваў – прагуляў. Будзе мне ад бабы маёй на сухары, ой і будзе!

А к с і н н я. Нямала пакажацца і майму дзеду, неслуху старому. Ты яго, выпадкова, тут у лесе не бачыў, га, Дрывасек?

Д р ы в а с е к. Ну як жа – бачыў, бачыў твайго добрага дзеда...

А к с і н н я (*з пагардай*). Добрага? Ці мне пачулася? Ці мне падалося? Гэта ўжо я, прабач, лепш ведаю, які ў мяне дурань нябіты дзед. І не пераконвай мяне. Дык дзе ж ён?!

Д р ы в а с е к. А навошта табе дурны дзед?

А к с і н н я ( *не адразу*). Хай будзе. Спатрэбіцца калі-небудзь. Запас бяды не чыніць.

Д р ы в а с е к. Падалося мне, што ён другую бабу знайшоў...

А к с і н н я *(разгублена*). Ш... што?! Што-о-о?! Я... я... я пакажу яму, дзе ракі зімуюць. Бач ты, не паспеў па лесе пагуляць адзін , а ўжо, кажаш, бабу сабе прыдбаў?

Д р ы в а с е к. А як ты яму пакажаш, дзе ракі зімуюць, калі ён ужо не твой дзед?

А к с і н н я. Што-небудзь прыдумаю. Другую, кажаш, бабу знайшоў?

Д р ы в а с е к. Другую, другую.

А к с і н н я. Што, і лепшую, чым я?

Д р ы в а с е к.. А хто вас, баб, разбярэ?

А к с і н н я. Быць не можа, каб мой дзед!.. Быць не можа! Ён ручны у мяне, хатні... як кот Васька! Быць не можа! (*Знікае).*

Д р ы в а с е к (*смяецца*). Забегала, старая, баіцца дзеда згубіць. А што, калі і праўда дзед Аўгей другую бабу знойдзе, га? Вось будуць дзівосы! Тады і Санкі добрымі пакажуцца, не інакш.

З'яўляецца дзед Аўгей з бярэмем бярозавых камлёў.

А ў г е й. А вось і мы. Дамоў вярнуся і зраблю яшчэ адны саначкі – яшчэ прыгажэйшыя, хай ведае мая старая. На злосць ёй. Хоць і пад старасць, але буду патрохі яе жыццю-розуму вучыць.

Д р ы в а с е к. Яна цябе, дарэчы, шукае.

А ў г е й. Хіба?

Д р ы в а с е к. Тут паблізу недзе ходзіць.

А ў г е й. То і добра. Я даўно спрабаваў яе ў лес выцягнуць. Не атрымлівалася. А на гэты раз, як бачым, усё цудоўна. Лепш і прыдумаць нельга было. Ёй, маёй старой, карысна ў лесе пабываць. Лес лечыць кожнага, хто на дурасць хварэе. Можа і маю бабу вылечыць, а хто яго ведае? Хацелася б...

Д р ы в а с е к. Быццам бы і так. Быццам і маеш ты рацыю, дзед. Вось і сякера гатова.

Наплывае гамана.

А ў г е й. Якраз і Санкі мае з сабачкам Гаў-Гаў нам дзень вязуць.

Д р ы в а с е к. Чую, чую гоман.

А ў г е й. Сустракай, Дрывасек.

Д р ы в а с е к. Я заўсёды рады такім гасцям.

З'яўляюцца Санкі, Гаў-Гаў і Певень.

С а н к і. Прывезлі дзень! Прывезлі!

Г а ў - Г а ў. Гаў!

А ў г е й. Малайцы.

П е в е н ь. Што, не любіце, калі цёмна, калі шэра навокал, страшна?

Д р ы в а с е к. Не баімся, Певень, мы цемры, не з палахлівых . Але ж без дроў застаўся. Дзеткі там, відаць, дома замярзаюць. А ноччу дровы сячы як? Не атрымліваецца. Нічога не бачна.

А ў г е й. Таму выручай нас, Певень. Кліч, кліч дзень на зямлю.

С а н к і. Кліч, Пеўнік, кліч!

Г а ў - Г а ў. Гаў! Гаў-гаў!

Д р ы в а с е к. Дабрыню тваю не забудзем.

П е в е н ь. Ой, што з вамі паробіш! Бачу, бачу: добрыя вы ўсе, трэба і сапраўды выручыць, але ж і мяне па галаве не пагладзяць...

А ў г е й. Чаму? Чаму так? Ты ж нам радасць прынясеш.

Д р ы в а с е к. Добрую справу зробіш, ага.

П е в е н ь. Усё так. Але ж часта ужо я дзень клічу, калі ноч на дварэ. А ёсць жа людзі, якія ноч любяць. Вось яны і злуюцца. Скаргі на мяне пішуць. У адміністрацыю. Раней у ЦК страчылі.

Д р ы в а с е к. Папера ўсё сцерпіць.

А ў г е й. Калі што, заступімся і за цябе.

С а н к і. Выручым, Пеўнік.

Г а ў - Г а ў. Гаў!

П е в е н ь. Дзе наша не прападала. Угаварылі.Ку-ка-рэ-ку-у-у-у! Ку-ка-рэ-ку-у-у! Ку-ка-рэ-ку-у-у-у!

І навокал стала светла. Усе пляскаюць у аладкі, чуваць «Ура-а!».

А ў г е й. Дзякуй табе, Певень!

Д р ы в а с е к. Калі хто будзе крыўдзіць цябе—абараню, толькі шапні. (*Трасянуў у паветры сякерай*).

С а н к і. А мы Пеўніка назад, дадому, адвязем.

Г а ў - Г а ў. Ага. Гаў!

А ў г е й. Адвязіце, канешне, канешне.

С а н к і. Сядай, Пеўнік.

П е в е н ь. Ды я з вамі ўжо побач прабягу – цяплей будзе. А дзе і пад'еду.

С а н к і. Добра. Тады пабеглі.

Г а ў - Г а ў. Я наперадзе пабягу. Сабачае месца заўсёды наперадзе. Гаў!

На лясной палянцы з'яўляюцца раптам Аксіння і Абыштоціна . Яны нікога не заўважаюць , а працягваюць высвятляць свае адносіны.

А б ы ш т о ц і н а. Пусці мяне! Я есці хачу і ў цёплую хату! Хопіць мне брындаць у халодным лесе!

А к с і н н я. Прэч, сказала! Каб і блізка твайго духу не было! Прэч! Прыдумала я цябе на сваю галаву!

А б ы ш т о ц і н а. Не трэба было мяне прыдумваць. А прыдумала – кармі, паі, апранай па апошняй модзе. Станаві на поўны пенсіён. Як ката. Як сабаку.

А к с і н н я. Ды пайшла ты !.. Іш, чаго захацела, прадажная твая душа!

Зрэдку тузаюцца.

А б ы ш т о ц і н а. Не пайду. Куды мне ісці? Куды?

А к с і н н я. На Кудыкіну гару.

А б ы ш т о ц і н а. Сама туды ідзі. Вельмі трэба. Мне і ў цябе дома добра. І дзед мне твой падабаецца.

А к с і н н я *(накінулася з кулакамі на Абыштоціну)*. Бач ты яе, ёй ужо і дзед мой падабаецца! Дзеда свайго я нікому не аддам. Біцца за яго буду з любой пачварай. Прэч, прэч, прэч!

А б ы ш т о ц і н а. Я цябе самую не пушчу дадому. І мае метры ёсць у тваёй хаце. Законы ведаць трэба.

А к с і н н я. А дудкі! Га? А Санкі дзед мой добрыя зрабіў, прыгожыя, не тое,што ты.

А б ы ш т о ц і н а. Штосьці ты не тое загаварыла, старушэнцыя! А раней што спявала?

А к с і н н я. А ў мяне, калі знаць хочаш, на адным дні іншы раз сем пятніц бывае.

А б ы ш т о ц і н а *(убачыла клубок, падняла)*. Ой! Пачакай, пачакай, нешта я ў цябе папытаць хачу... Дай сабрацца, дай дух перавесці. Так, значыць,ага... Дзеда дамоў гнала?

А к с і н н я. Мой дзед: што хачу , тое і раблю.

А б ы ш т о ц і н а. А калі я цябе, старая торба, а? Як ты дзеда? (*Задаволена смяецца*).

А к с і н н я. Вярні клубок, не распальвай агонь у маім хоць і старым, але гарачым целе. Чуеш, абразіна?

А б ы ш т о ц і н а (*адбегла падалей ад Аксінні*). Чую, чую. Клубок, клубок, разам з бабай дамоў скок-паскок... пацалуй дзверы... пацалуй замок...(*Кінула клубок, ён пакаціўся, і ў гэты час Аксіння паскакала за ім то на адной назе, то на другой, на дзвюх адразу*).

А к с і н н я. Ратуйце! Мяне ногі не слухаюцца! Мае ногі! Робяць тое, чаго я не хачу! Бягуць туды, куды я не жадаю!

А б ы ш т о ц і н а. А, добра? А дзеда свайго хацела прымусіць так скакаць. Паспытай, што гэта такое, паспытай.

А к с і н н я. Больш не буду. Чэснае бабуліна. Пашкадуй. А дзеда свайго і пальцам не крану.

А б ы ш т о ц і н а. Пашкадую, але ж глядзі ў мяне. Так і быць, забяру чароўныя словы назад.

А к с і н н я. Забяры, забяры, дзеўка. Ох, і стамілася!..

А б ы ш т о ц і н а. Клубок, клубок, спыніся, па баках азірніся... не спяшайся домоў... не рабі больш скок-паскок... не цалуй дзверы... не цалуй замок...

Аксіння стомлена плюхнулася на зямлю.

(*Раптам знерухомела ад здзіўлення*). Ой, дзень! А я і не бачыла...

А к с і н н я. Праўда, праўда: дзень! І дзед мой вунь!

З’яўляецца дзед Аўгей, за ім – Санкі, Гаў-Гаў, Дрывасек.

(*Кінулася да дзеда, абняла яго*). Пайшлі дадому, родненькі! Прабач, калі што не так. Даруй. Даруеш, Аўгеюшка, бабу дурную?

А ў г е й. Гэта трэба падумаць.

А к с і н н я. Падумай, падумай, родненькі. Я пачакаю. Толькі нядоўга... Нешта найшло на мяне. А што найшло—і сама не ведаю... А Санкі ты добрыя зрабіў. Выдатныя Санкі.

Самыя лепшыя Санкі ў свеце! Бяры свае Санкі... і пайшлі, пайшлі дамоў.

А ў г е й. І Сабаку Гаў-Гаў забярэм?

А к с і н н я. І сабаку... і сабаку!..

С а н к і. Ура-а! (*Скачуць ад радасці*).

Г а ў - Г а ў. Гаў-гаў! А я «ура!» крычаць не ўмею. Гаў-гаў!

А ў г е й. Пойдзем, пойдзем і дадому. Куды ён, наш дом, падзенецца? Але спярша трэба Дрывасека выручаць.

А к с і н н я. Трэба дык трэба! Сякеру мне! (*Працягнула Дрывасеку руку).*

Д р ы в а с е к. Сваю сякеру я нікому не даю. Для вас у мяне ёсць іншыя сякеры. Было б жаданне ...

А к с і н н я. Гавары, што рабіць! Паказвай! Эх вы, мужчыны! Нічога вы без нас, жанчын, зрабіць не можаце!

Д р ы в а с е к. У дрывасека заўсёды адна работа.

А к с і н н я. Давай і тую – адну.

А ў г е й (*хітра ўсміхаецца*). Не пазнаю, не пазнаю я сваю кабету.

Д р ы в а с е к. Тады – за мной.

С а н к і. Па-е-ха-лі-і!

Га ў - Г а ў. Гаў-гаў!

Усе, акрамя Абыштоціны, знікаюць у гушчары. З песняй.Чуваць звон сякер.

А б ы ш т о ц і н а. А мяне не ўзялі з сабой. Я ім ужо і не патрэбна. Пайду свой дом шукаць... Недзе ж ён ёсць у мяне. А дзе—пакуль і сама не ведаю. Можа і знайду. Калі ж усе любяць толькі усё прыгожае. А як мне папрыгажэць? І сама не ведаю. Хоць, пачакайце! Пачакайце! Я ведаю, што трэба зрабіць, каб стаць прыгожай. Ведаю. Трэба не слухаць шкодную бабу Аксінню, яна хлусіла, а я, дурніца, верыла... а трэба быць такой добрай, як добры саначнік дзед Аўгей. І тады, мусіць, я таксама буду шчаслівай, як і ён, а? (*Заўважае бярозавыя камлі*). Ніяк дзед Аўгей забыўся? А з чаго ж ён новыя санкі зробіць? Трэба выручаць дзеда Аўгея, добрага саначніка! (*Бярэ камлі, знікае*).

А з гушчара даносіцца звон сякер...

Карціна восьмая

У хаце дзед Аўгей і баба Аксіння.

А ў г е й. Паглядзі, Аксіння, якія я санкі зрабіў?

А к с і н н я *(ахвотна)*. Зараз, зараз, Аўгеюшка. (*Падбягае да старога*). Пакажы. (*Разглядае санкі*). Добрыя. Добрыя санкі. Залатыя рукі ў цябе, дзед. Малайчына ты ў мяне. У каго яшчэ такі дзед ёсць,га? ( *Да гледачоў*). Можа ў каго і ёсць, але ўсё роўна не такі. Можа ў каго дзед пчаляр, можа ў каго дзед сталяр… а ў мяне—саначнік. У мяне і ў унука Васілька, які жыве ў горадзе і хутка прыедзе наведаць нас. Каб пакатацца вось на гэтых саначках. І каб разам сустэць Новы год.

А ў г е й. Я чакаю цябе, унучак. Прыязджай. Патрохі навучу і цябе санкі рабіць… Дзед жа не вечны на зямлі, а санкі заўсёды людзям патрэбны …

А к с і н н я. Што ты такое гаворыш, стары?! Нікуды не пушчу! І гэтую зямлю не пакінеш, пакуль багата санак не наробіш—столькі багата, каб хапіла іх для усіх дзяцей.

А ў г е й (*паціскае плячыма*). Бачыце, сябры мае… Паступіў заказ. Ад бабы маёй. На гэты раз—заказ добры. Пайду выконваць. А тады мо і сустрэнемся.

А к с і н н я. А куды ж мы падзенемся? Павязем унука Васілька на ёлку на новенькіх санках. Давай, давай, дзед, і я табе дапамагу, бо аднаму табе цяжка будзе багата санак нарабіць. А ўдвух справімся. А то і на ёлку, чаго добрага, спознімся…

А ў г е й. Так, так, Аксіннюшка. Дапамагай. Дзед Аўгей і Снягурка нас ужо чакаюць, мабыць…

А к с і н н я (*лагодна*). Эх, і як бы вы без нас, мужыкі, жылі ды санкі рабілі? Падумаць цяжка!..

Дзед Аўгей і баба Аксіння робяць санкі і спяваюць:

А ў г е й. Мы майструем
А к с і н н я. Без падмогі
З бабай санкі…
А к с і н н я *(адначасова)*.
Мы майструем

Дзіва-сані
На гару
Ўзлятаюць самі.

З дзедам санкі...
Р а з а м. Дзіва санкі—
Раскатанкі.
А к с і н н я А ў тых санак
Палазы—
Два бліскучыя
Лязы.
А ў г е й. Не стрымае
Іх адліга,
Не прыпыняць
Маразы.

А ў г е й. А як пусцяцца
З гары,
Не дагоняць
І вятры.
Р а з а м. Вось якія
Дзіва-санкі
Мы майструем
Вам,
сябры!

Канец.

2005

## ЧАРАДЗЕЙНЫ РУКЗАЧОК
## П’еса-казка ў дзвюх дзеях

Вершы Міколы Чарняўскага

Дзейныя асобы:

Г а р л а ч ы к, акцёр; ён жа – Мядзведзь.

С у н і ч к і н а, актрыса; яна ж – Маша.

П е р ч ы к а в а, актрыса; яна ж – Мышка, а таксама можа быць і кусцікам, і пяньком…

### Д з е я п е р ш а я

На сцэне з’яўляюцца тры акцёры. Рукзачок за спіной у Гарлачыка. У руху. Спяваюць “Песню пра рукзачок”.

Ён даўно чакаў сустрэчы,
Не адзін збіраўся дзень.
Рукзачок ускінь на плечы –
Ён нідзе не падвядзе!

Прыпеў:
Як жывы, заўсёды з намі
Ён, адданы рукзачок,
Наш паходны, неабходны,
І ва ўсе часіны модны,
Наш вясёлы, наш лагодны,–
Чарадзейны рукзачок.
Рукзачок, рукзачок,
Чарадзейны рукзачок.

З рукзачка, з ягонай ласкі
Ажывуць у добры час
Нашы цуды, нашы казкі,–
Сустракайце, дзеці, нас!

Прыпеў.

Прыйдзе ён, калі паклічуць,
Прыйдзе ў школку і садок.
Ён дабра заўсёды зычыць,
Чарадзейны рукзачок.

Прыпеў.

Калі скончыцца песня, акцёры спыняюцца, здзіўлена пераглядаюцца, паціскаюць плячыма.

С у н і ч к і н а. Пачакайце, пачакайце! Гарлачык! Перчыкава!
Г а р л а ч ы к. Што, Сунічкіна?
П е р ч ы к а в а. Ты, Сунічкіна, відаць, не зразумела, да каго мы трапілі?
С у н і ч к і н а. Цяпер бачу: у зале – дзеці, хлопчыкі і дзяўчынкі.
П е р ч ы к а в а. Так, так! І дарослыя таксама ёсць.
С у н і ч к і н а. Відаць, гэта іх мамы і таты.
П е р ч ы к а в а. А можа і дзядулі, бабулі?
Г а р л а ч ы к. Значыць, мы правільна прыйшлі. Па адрасу. Тут самыя лепшыя хлопчыкі і дзяўчынкі. Я бачу па іх. Вунь якія яны прыгожыя, жвавенькія!.. І таму я магу смела зняць з плячэй свой чарадзейны рукзачок. *(Знімае).* Бачу, зацікавіліся? Так-так, гэта не зусім звычайны рукзачок… Ён з сюрпрызамі, між іншым… Насіў бы я рукзачок за спіной, калі б ён быў самы звычайны рукзачок, а тым больш – пусты. Сінічкіна! Перчыкава! Што належыць нам зрабіць першай справай?
С у н і ч к і н а. Павітацца з усімі, хто ў гэтай зале.
П е р ч ы к а в а. Павітацца, так-так!
Р а з а м. Добры дзень усім!
С у н і ч к і н а. Ніколі не адгадаеце, што ў нашым рукзачку.
П е р ч ы к а в а. А давайце мы самі скажам нашым гледачам…
Р а з а м. … што ён поўны казак!
С у н і ч к і н а. Таму рукзачок і ёсць чарадзейны, бо дзе вы яшчэ бачылі, каб у рукзачках было паўнютка казак? Нідзе, правільна.
Г а р л а ч ы к. Во, во, яны так і лезуць, казкі, з рукзачка!.. *(“Запіхвае” іх назад у рукзачок).* А наш рукзачок – выключэнне.
П е р ч ы к а в а. Рэдкае…
С у н і ч к і н а. … і прыемнае.
Г а р л а ч ы к. Што, дзеці, заглянем у наш рукзачок? Настаў час? Паглядзім, што ў ім?

Дзеці адказваюць.

Г а р л а ч ы к. Зараз, зараз мы тут разбярэмся. Адну хвілінachку. Але спярша трэба сказаць чароўныя словы: рукзачок, рукзачок,

пакажы свой язычок! Вось, калі ласка! *(Дастае з рукзачка маленькую ялінку).* Дзе растуць ялінкі, дзеці?

Дзеці адказваюць: у лесе.

Г а р л а ч ы к. Правільна, у лесе. Значыць, ялінка будзе лесам.

Сунічкіна паставіла ялінку крыху падалей ад Гарлачыка.

Г а р л а ч ы к. Малайчына, Сунічкіна. А лесу без грыбоў не бывае. *(Дастаў некалькі грыбкоў, падаў Перчыкавай, тая расставіла грыбочкі).* Малайчына, Перчыкава. Растуць у нас і грыбочкі. Дзеці, а што яшчэ, акрамя грыбоў, расце ў лесе? Правільна, ягады. *(Дастаў кусцік, падаў Сунічкінай).* У цябе прозвішча Сунічкіна, вось і кусцік з тваімі ягадкамі… Трымай.

Сунічкіна “пасадзіла” кусцік.

Г а р л а ч ы к. Які прыгожы і цудоўны ў нас лес атрымаўся! Дрэвы растуць, а пад імі грыбы-ягады. Цуд! Але для нашай казкі гэтага мала. Таму зазірнем яшчэ ў наш чарадзейны рукзачок. *(Дастаў хусцінку, падаў Сунічкінай).* А гэта табе, Сунічкіна. Павязвай, павязвай. Будзеш дзяўчынкай.

С у н і ч к і н а. А якой… дзяўчынкай? З якой казкі?

Г а р л а ч ы к. А сама ты з якой хацела б быць?

С у н і ч к і н а. Я? А падумаць можна?

Г а р л а ч ы к. Чаму ж нельга? Падумай. Перш, чым штосьці зрабіць, заўсёды трэба спярша падумаць.

С у н і ч к і н а. Я б… я б хацела быць дзяўчынкай Машай з казкі “Маша і Мядзведзь”. *(Павязала хустку).*

Г а р л а ч ы к. Хочаш, і будзь ёй. Тут самае важнае, самае галоўнае – тваё жаданне.

С у н і ч к і н а. Падобна я на казачную Машу?

Г а р л а ч ы к. Вылітая! Адзін к аднаму! *(Падаў маленькі кошык).*Грыбы ж збіраць нашай Машы ў нешта трэба? Трэба. Трымай кошык.

С у н і ч к і н а. Ой, праўда! *(Узяла кошык).* Лёгенькі кошык, зручны.

Г а р л а ч ы к *(корпаецца ў рукзачку).* А Мядзведзем буду я, значыць. Таму што тут я самы смелы, дужы і вялікі. Ну, дзе ён, мой

домік? (Дастаў). Вось ён. Куды б мне яго тут паставіць? А каля ёлачкі! *(Паставіў).* Тут яго месца. Ну што, можна і казку пачынаць?

П е р ч ы к а в а. А пра мяне... забыліся?

Г а р л а ч ы к. А пра цябе і забыліся, праўда. Прабач, актрыса Перчыкава. А кім бы ты хацела быць у нашай казцы?

П е р ч ы к а в а. Таксама дзяўчынкай Машай. Але паколькі ў казцы Маша адна, тады давайце я буду Мышкай. А?

Г а р л а ч ы к. А ёсць у казцы пра дзяўчынку Машу і Мядзведзя Мышка ці не?

С у н і ч к і н а. Не, Мышкі няма, здаецца…

П е р ч ы к а в а. А я буду ўсёроўна, ёсць там яна ці няма. Са мной казка цікавейшай стане. Мышкі ўсюды ёсць!

Г а р л а ч ы к *(да Машы).* Паверым?

М а ш а. Паверым!

Г а р л а ч ы к. Добра. Хай будзе і так. *(Падаў шэранькі балахончык, на якім напісана "Мышка").* Трымай, Мышка! У нашым чарадзейным руказчку ўсё ёсць. Ну, а цяпер мая чарга… *(Нацягнуў шапку-вушанку, кажушок і рукавіцы. Бадзёра).* Хто скажа, што я не Мядзведзь?! Га-га-а-а-а-а! Дзе тут вулей з маім любімым мёдам?! Ці можа хто са мной хоча пабарацца?! То ведайце, з кім!..

Гарлачык, Сунічкіна і Перчыкава сталі Мядзведзем, Машай і Мышкай.

М а ш а. Хутчэй прыходзь да нас, казка!

М ы ш к а. Усе дзеткі чакаюць цябе!

М я д з в е д з ь. І малайцы, калі чакаюць. Казка – пачынаецца!..

Мядзведзь і Мышка знікаюць. Маша збірае грыбы.

М а ш а *(спявае):*
Мне бабуля гаварыла,
Каб далёка не хадзіла,
Каб грыбы ля сцежкі брала.
Ад сяброўак не адстала,–
Быў такі яе наказ.
Мне казаў дзядуля мілы,
Што не трэба ў лесе крылы:
Калі ў ім грыбы збіраюць
І ад радасці лятаюць,–
Заблудзіцца можна ўраз!

Ой, грыбы-грыбы-грыбочкі,
Не хавайцеся ў цянёчку,
А на сонейка вылазьце.
Карагод вясёлы ладзьце,
Як і ўчора, пагуляйце
Сёння ў хованкі са мной.
Ты зірні сюды, бабуля,
Ты зірні сюды, дзядуля:
Бы з нагамі,
Бы з рукамі,
Рыжыкі з баравікамі
Лезуць самі ў кошык мой!
Ой!

М а ш а *(нарэшце ўспомніла пра сяброўак, гукае).* Насця! Вераніка-а!.. А-у!.. А дзе ж яны, мае сяброўкі? Няўжо гэта я так далёка зайшла і …і… заблудзілася? А-у!..Насця! Вераніка-а!.. Вы дзе?… Дзўчынкі-і!… Сяброўкі-і!..Ой, мне страшна зрабілася!… І дарогі я адна не знайду з лесу да сваёй хаты. Што ж рабіць? Як мне быць? А раптам Воўк? Альбо сам Мядзведзь? Страшна як!.. Боязна!.. Хто за мяне заступіцца? Няма ні дзядулі, няма ні бабулі… Жах! І чаму ж гэта я іх не паслухалася?

Крык птушак. Сапраўды – жах!..

І птушкам гэтым не сядзіцца і не спіцца!.. Цішэй, птушкі!.. *(Маша то знікне, то з’явіцца).* Там далей – суцэльная глуш, усюды цёмна, як ноччу. *(Заўважае домік).* Ой, а чыя ж гэта хатка?! Ды такая маленькая, акуратненькая, прыгожая! *(Пастукала ў дзверы).* Ніхто не адказвае. Можа, гаспадар гэтай хаткі таксама недзе ў лесе ходзіць? Можа, і ён заблудзіўся? А што, калі я вазьму ды сама зайду і ў гэтай хатцы гаспадара пачакаю? Там не так, відаць, страшна будзе? Толькі ці можна ж заходзіць без дазволу? Хатка ж – чужая. Але ж і замка на дзвярах няма і ніхто не адказвае на стук. Відаць, можна зайсці, я ж нічога там дрэннага рабіць не стану…проста схаваюся ад страху. Няхай будзе страх ва ўсім вінаваты!.. *(Штурханула дзверы– дзверы і распахнуліся, і зусім маленькая хатка стала вялікай: заходзь – жыві. Маша так і зрабіла.).* Ёсць хто ў гэтай хаце? Ёсць тут хто? Ціха. *(Села на лаву. Раптам пачула, як шкрабае Мышка).* Мышка шкрабае? Ці што гэта?… Здаецца, яна… Мышкі я не баюся. *(Мышка перастае*

*шкрабаць).* Хто ж, цікава, тут жыве? Чаму нікога не відаць і не чувацць? *(Спахапілася).* Ой, а чаму ж гэта я сяджу? Прыйдзе раптам гаспадар, а ежа не прыгатаваная? *(Знайшла крупы).* Крупы ёсць – будзе каша. Каструлька таксама вось… Вада… Цукар… Соль… І пані печ… А больш нічога і не трэба!.. *(Варыць кашу).* А я кашку ў сваёй бабулі навучылася гатаваць. Вучыся, кажа, унучка, у жыцці ўсё спатрэбіцца… Ззаду кінеш, а наперадзе возьмеш… Пакуль каша гатуецца, я прыбяру ў пакоі… Чамусьці мне здаецца, што тут жыве нехта крышачку непрыстасаваны да хатніх клопатаў… *(Прыбірае, мяце падлогу).* Хто б мог тут жыць? Ой! А як там ужо наша кашка-малашка? Зусім забылася пра яе. *(Падбегла на каструлькі, спытае).* А яна ўжо, кашка, і гатовая!

Прыбягае Мышка.

М ы ш к а. Прывітанне, Маша!

М а ш а. Ой, Мышка?!

М ы ш к а. Мышка, Мышка. Я – мясцовая Мышка. Я тут жыву. Пад падлогай.

М а ш а. Там жа цёмна, мабыць?

М ы ш к а. Затое ніхто мяне там не бачыць. Што хачу, тое і раблю.

М а ш а. І шкоду… таксама робіш?

М ы ш к а. Не, каму тут шкоду можна зрабіць? Няма каму. Так, трохі… Пашкрабую іншы раз… проста так, каб нагадаць пра сябе… Іншыя па тэліку выступаюць, у кіно здымаюцца… а мне, беднай Мышцы, няма як і засвяціцца…

М а ш а. А з кім ты жывеш побач, Мышка?

М ы ш к а. Спярша накармі кашкай, а потым я табе скажу, з кім жыву.

М а ш а. Калі ласка! (Падала талерку з кашай Мышцы).

М ы ш к а *(есці).* Смачная кашка якая! Ніколі такой не ела! Хто ж цябе навучыў такую смачную кашку гатаваць?

М а ш а *(сумна).* Бабуля… Як яны там, бабуля з дзядулем?

М ы ш к а. Добрая ў цябе бабуля, маё прывітанне ёй. Ух, да чаго смачная кашка! Вось абрадуецца Мядзведзь!

М а ш а *(ажно ўпусціла лыжку).* Мядз… мядз…ведзь?!

М ы ш к а. Мядзведзь, Мядзведзь. Міхал Патапавіч. Ага. Ён. Так-так, гэта ягоная хатка. Не здзіўляйся. Летні домік. Каб ад дажджу хавацца… На зіму ён у бярлогу забіраецца, а калі снегу няма і ў борцях шмат мёду, яго туды не загоніш.

М а ш а. А я ж без дазволу зайшла... Што ж будзе мне? А, Мышка?

М ы ш к а. Хе! Я тут без дазволу ўжо чатыры гады жыву. Вунь новую дзірачку ў падлозе прагрызла... Запасны ход... На ўсялякі выпадак... Каб зручней уцякаць было ад Патапавіча...

М а ш а. А што, ён такі злы?

М ы ш к а. Горш не прыдумаеш! Ух і злюка! За кожную дробязь гатовы забіць мяне, растаптаць!.. А цяпер вось ты з'явілася, то, можа, хоць ад мяне адчэпіцца, на табе будзе ўсю злосць спаганяць. Сама хутка даведаешся... А лапы ў яго ого якія!.. А зубы!.. А пашча!.. Самы сапраўдны людаед!..

М а ш а. Ой! Дык што ж ты параіш мне рабіць, Мышка?

М ы ш к а. А што я табе параю рабіць, Маша?.. Адно толькі я табе скажу: Мядзведзь цябе з хаткі не выпусціць.

М а ш а. Як гэта?

М ы ш к а. Вельмі проста. Ніколі.

М а ш а. Мяне ж дзядуля з бабуляй чакаюць.

М ы ш к а. А яго гэта мала хвалюе. Старых сваіх трэба было слухацца. А так трапіла ты ў сіло да Мядзведзя, і нікому невядома, акрамя яго самога, чым усё гэта кончыцца.

М а ш а. Няўжо ён і сапраўды такі нядобры, такі страшны, Мядзведзь?

М ы ш к а. Жах! Адзін дзень бывае так сабе... крыху нават і добры, другі – не, зусім паскуднік. Вось і не зразумею, ад чаго ў яго так часта настрой мяняецца.

М а ш а. А сёння? Сёння які ён?

М ы ш к а. Не бачыла яшчэ... праспала. Але які не настрой, а ў жмуркі цябе прымусіць гуляць. Абавязкова. Гэта яго любімы занятак.

М а ш а. У жмуркі гуляць я ўмею! *(Радуецца).*

М ы ш к а. Пачакай радавацца! Ён табе такую ўмову паставіць: калі зловіць, то на ўсё жыццё і застанешся ў яго жыць.

М а ш а. Што, і без бабулі з дзядулем? Так?

М ы ш к а. Канешне! Хто іх сюды пусціць, у мядзведзеў лес?

М а ш а. А калі я яго абхітру і не траплю яму ў лапы? Што тады?

М ы ш к а. Бяда ў тым, што толькі ён, Мядзведзь, ловіць. Адзін. Сам.

М а ш а. Так не справядліва!

М ы ш к а. Справядліва ці не, а ў Мядзведзя праўда адна.

М а ш а *(румзае).* Хачу дамоў... Да бабулі... Да дзядулі...

М ы ш к а. Хацець не шкодна. Але спярша я табе скажу наступнае, Маша. Слухай мяне уважліва.

М а ш а. Ага, я цябе слухаю, Мышка.

М ы ш к а. Калі Мядзведзь пачне гуляць з табой у жмуркі, то ён дасці табе ў рукі званочак. Я выручу цябе… Толькі ты за гэта кожны дзень павінна даваць мне жменьку зярнятак. Згодна ці не? Прымаеш умову?

М а ш а. Згодна…Прымаю… А што мне яшчэ застаецца рабіць?

М ы ш к а. Тады мы з табой абхітрым касалапага!

М а ш а . А як?

М ы ш к а. “Як”, “як”! Ты як маленькая ўсё роўна, Маша. Слухай мяне ўважліва. *(Азіраецца па баках).* Нас тут ніхто не падслухае?

М а ш а. Мы адны тут…

М ы ш к а. Гэта і добра. Ага, значыць, дзейнічаем так…Ты прывяжаш званочак за мой хвосцік. Зразумела?

М а ш а. Так, так, зразумела.

М ы ш к а. А мяне ён хай паспрабуе злавіць! Ён будзе думаць, што за табой ганяецца, а на самой справе – за мной. А я пад лаву – скок, пад ложак –скок, у шчылінку якую-недзь ускочу – прывітанне, Мядзведзь!

М а ш а. Малайчна ты, Мышка! Ты смелая і здагадлівая…

М ы ш к а. А ты як думала! Не глядзі, што маленькая і шэранькая. Здаецца, і Мядзведзь ідзе? Яго, яго крокі. Чуеш, усё, што трапляе яму на сваім шляху, ён трушчыць? Лапішчы – во!.. Чуеш?

Трашчыць пад лапамі Мядзведзя ламачча.

М а ш а. Чую…

М ы ш к а. Помні пра нашу дамову… пра зярняткі…А я пабегла хавацца. І будзем рабіць усё, як дамовіліся. У самую патрэбную хвіліну я акажуся побач з табой.

М а ш а. Ой, у мяне ўжо ўсё цела трымціць. Я баюся. Вельмі…

М ы ш к а. Набярыся мужнасці, і ўсё будзе добра. Мышка цябе ў бядзе не пакіне. Я хоць сама Мядзведзя баюся, але за цябе заступлюся. Ды і нас жа двое, помні пра гэта!.. Толькі не забывай і пра дамову, пра зярняткі. Угу?

М а ш а. Ды помню, помню!..

М ы ш к а. Глядзі ж!.. *(Знікае).*

М а ш а. Не, не!.. Я дакладна прападу ад страху!.. Я вельмі баюся Мядзведзя!.. Вельмі!.. Ой, а дзе каша? *(Паставіла на стол каструльку з кашай. Ледзь не хлімкае).* Прыемнага апетыту, касалапы!.. А цяпер куды б мне тут схавацца ад яго? Дзе тут які закуток? *(Шукае, куды б схавацца. Мітусіцца. Нарэшце схавалася).*

Уваходзіць Мядзведзь.

М я д з в е д з ь. О, што я бачу?! Не інакш – каша?! Каша! Глядзі ты! Што за дзівосы! *(Есці).* А смачная якая каша! Я даўно не еў такой кашы! Люба-дорага! І хто ж, цікава мне, яе прыгатаваў? Пакажыся, повар!.. Прымі ад мяне падзяку!.. І паклон!.. *(Нахіліўся).*

Маша нясмела выходзіць са схованкі.

М а ш а. Я… я… я…

М я д з в е д з ь. Дзякуй за кашу, дзяўчынка.

М а ш а. Няма за што…

М я д з в е д з ь. Ого няма! Я такой смачнай кашы ніколі не еў. Як цябе клікаць-велічаць, прыгажуня?

М а ш а. Маша я.

М я д з в е д з ь. А, Маша! Як гэта я цябе адразу не пазнаў? Сапраўды – Маша.

М а ш а. Ага…

М я д з в е д з ь. Будзеш жыць у мяне, Маша. Цяпер я цябе не адпушчу. Будзеш печ паліць, будзеш кашку варыць…

М а ш а. Адпусці мяне дамоў, Міхал Патапавіч.

М я д з в е д з ь. Навошта гэта? Хіба ў мяне табе кепска?

М а ш а. Я ў дзядулі круп вазьму… Тады багата кашы атрымаецца. Поўная каструлька. Калі і яшчэ не болей.

М я д з в е д з ь. Хітрая, аднак! Так не будзе. І запомні, Маша: калі толькі ўцячэш ад мяне, я цябе абавязкова знайду і… з’ем. Каб гэта я, Мядзведзь, ды не паймаў цябе? Дзе гэта бачана? Будзе заўсёды толькі па мне. Ну, а цяпер мый посуд, прыбіраннем займіся… А я па лесе пагуляю, можа дзе на мёд патраплю…Пасаладзіць у роце хочацца. Які Мядзведзь салодкага не любіць! Адвярніся, я штаны пераадзену. Гэтыя ў мяне выхадныя. У горад ці ў госці да каго схадзіць…А па дрэвах лазіць і гэтыя самы раз будуць… З дзіркамі…

М а ш а *(радасна).* А я штаны залапіць магу, Міхал Патапавіч!

М я д з в е д з ь. Няма ў мяне ні іголкі, ні нітак…

М а ш а. У бабулі ёсць!

М я д з в е д з ь *(доўга глядзіць на Машу).* Хм! А мёду ў тваёй бабулі, выпадкова, няма? *(Пераапрануў штаны).*

М а ш а. І мёд ёсць!

М я д з в е д з ь. Глядзі ты!.. Толькі мне здаецца, ты ўсё ж, Маша, хочаш ад мяне ўцячы. Не атрымаецца. Ты мне падабаешся… У маім

доміку нават святлей стала, калі ты з’явілася… Адразу відаць, што ты добрая гаспадынька…А такімі, як ты, не раскідваюцца… Я хутка вярнуся… *(Накіраваўся да дзвярэй, аднак спыніўся, павярнуўся да Машы).* Штаны мне і так добрыя будуць…А пра бабулін мёд мы з табой яшчэ пагамонім, Маша.*(Знікае).*

М а ш а *(услед).* Добра… Пагамонім…

Маша мые посуд, падмятае падлогу. Села на лаву, спявае:

Мне бабуля, як і знала,
Выпраўляючы, сказала:
“Заблудзіўшыся, не плач,
Не бяжы праз лес наўскач.
А прысядзь, агледзься трошкі –
І дарогу знойдуць ножкі,
І да хаты прывядуць,
Заблукацца не дадуць…”

Мне казаў дзядуля строга,
Што ваўкоў у лесе многа.
Што ў грымучай глыбіні
Страх наводзяць нават пні.
Я ж іх слухаць не хацела,
Мне хутчэй у лес карцела,
А цяпер сяджу ў глушы.
Дзе ні следу, ні душы.

Каб ты ведала, бабуля,
Каб ты ведаў, мой дзядуля,
Дзе цяпер унучка, дзе,
У якой бядзе…

Дзед з бабуляй плачуць недзе,
Я ж у логаве мядзведзя.
Як з палону мне ўцячы?
Хто мне можа памагчы
З гэтай выбрацца бяды?..
Ой, мядзведзь ідзе сюды!

Прыбягае Мышка.

М ы ш к а. Ну што, убачыла, які ён? Упэўнілася? Перараканалася?

М а ш а. Не такі ён дужа і страшны…быццам.

М ы ш к а. Пачакай, пачакай! Пажывеш – пабачыш. Вось не знойдзе мёду, і ўсю злосць спагоніць на табе. Ідзе, здаецца? Ну, я пабегла да сябе! Не люблю яму на вочы лішні раз паказвацца!.. Ну яго, злюку!.. *(Знікае).*

Вяртаецца Мядзведзь.

М я д з в е д з ь. Нешта сумная ты, Маша?

М а ш а. Па бабулі сумую, па дзядулю. Па сваіх сяброўках…

М я д з в е д з ь. Ну што з табой паробіш, дзяўчо? Адпусціў бы я цябе, калі б ты мне не патрэбна была… Сумна аднаму мне жыць… Хоць плач… Іншы раз і плачу…Толькі хто калі мядзведзевы слёзы бачыў?

М а ш а. Я… я не бачыла таксама.

М я д з в е д з ь. А давай па справядлівасці зробім, Маша. Ідзе?

М а ш а. Не ведаю, як будзе тая справядлівасць выглядаць?

М я д з в е д з ь. У жмуркі пагуляем, гэты ж зусім проста… Гуляла калі-небудзь?

М а ш а. Гуляла.

М я д з в е д з ь. Вось і цудоўна. Я даю табе вось гэты званочак у рукі… Трымай, трымай… *(Падаў званочак).* Сабе завязваю вочы…

Пакуль Мядзведзь завязвае сабе вочы, з’явілася Мышка, і Маша да яе хвосціка прывязала званочак, а сама схавалася.

М я д з в е д з ь. Завязваю, завязваю… Завязаў, здаецца. Нічога не бачу. Ты хаваешся, я цябе шукаю. Калі знайду– не адпушчу дамоў, а не знайду – так і быць, твая ўзяла. Пачалі гульню!...

Жмуркі працягваюцца даволі доўга, Мядзведзь не вытрымлівае, сядае на лаву, сапе, а Маша тым часама адвязала ад хвосціка Мышкі званочак. Мышка знікла.

М я д з в е д з ь. Тут нешта не так. Я, я павінен быў… толькі я павінен быў перамагчы!.. А як гэта табе, дзяўчынка, удалося?

М а ш а. Удалося… Таму што я вельмі хачу дамоў… да бабулі з дзядулем… Яны ўжо там, відаць, плачуць…

М я д з в е д з ь. Дом твой нікуды не дзенецца. І старыя пачакаюць. Мне вось адно цікава: як гэта я табе ў жмуркі прайграў?

М а ш а. А дзе тваё слова, Міхал Патапавіч? Што абяцаў?

М я д з в е д з ь. Слова? Маё? Так-так…. сапраўды. Давай што-небудзь іншае прыдумаем, а? Бачыш, старым стаў, нягеглым, трошкі пабегаў за табой – і стаміўся. Кхе-кхе-ке!.. Ты маладая, думай, а я адпачну. Думай! Вынаходзь якую-небудзь іншую гульню. *(Храпіць).*

Прыбегла Мышка.

М ы ш к а. А здорава мы яго абдурылі са званочкам!..

М а ш а. Але ж ён мяне ўсё роўна дамоў не адпусціў…

М ы ш к а. А ты кажаш, што ён не такі і страшны! Яшчэ той тып!.. *(Пагразіла Мядзведзю лапкай).* У!.. Што ён табе тут наплёў?

М а ш а. Кажа: стары стаў, мне ўжо бегаць цяжка… Прыдумай, кажа, што-небудзь яшчэ…

М ы ш к а. Эх, калі б я ведала дарогу да твайго дзядулі з бабуляй, я б умомант адвяла цябе да іх, і шукай тады ветру ў полі. І нічога не трэба было б новага прыдумляць. І паклон Мядзведзю!..

М а ш а. Як шкада, што і я дарогу не запомніла. Калі ж я не збіралася заблудзіцца…

М ы ш к а. Што цяпер ужо слёзы ліць? *(Паманіла Машу да сябе, нешта шэпча той на вуха, не зводзячы вачэй з Мядзведзя).* Усё зразумела?

М а ш а. Ага. Зразумела.

М ы ш к а. Я заўсёды буду побач з табой у самую цяжкую хвіліну. Май на ўвазе і помні пра зярняткі. Я магу стаць і кусцікам, і пяньком… *(Знікае).*

М я д з в е д з ь *(прачнуўся).* Ну, прыдумала што-небудзь, Маша?

М а ш а. Адпусці, Міхал Патапавіч, на адзін дзянёчак мяне ў вёску. Усяго на адзін дзянёчак. Я бабулі і дзядулю гасцінцаў аднясу.

М я д з в е д з ь. Як жа я цябе адпушчу, калі ты дарогі не ведаеш? Заблудзішся. Прападзеш і сама, прападуць і гасцінцы. Давай гасцінцы, я іх сам аднясу. А ты маю хатку сцеражы.

М а ш а. Ну, хай ужо будзе па-твойму… *(Склала ў кошык піражкі і грыбы).* Вось глядзі: знізу піражкі будуць ляжаць, зверху мае грыбы. Аднясі ўсё гэта бабулі з дзядулем.

М я д з в е д з ь. Будзе зроблена. Чын па чыну. Мядзведзь слоў на вецер не кідае. Май на ўзвазе. О!

М а ш а. Ды запомні: кошык па дарозе не адчыняй, піражкі не вымай. Я на дубок узлезу, за табой сачыць буду!.

М я д з в е д з ь. Добра. Давай кораб. *(Узваліў кораб на спіну і пайшоў).*

Ідзе Мядзведзь па лесе, стаміўся, паставіў кораб на зямлю каля кусціка, а ім стала Мышка, паглядае на пянёк, а ім стала таксама Мышка, і кажа:

– Сяду на пянёк,
З'ем піражок!

М а ш а *(услед ідзе, вачэй з Мядзведзя не зводзіць, а сама ўвесь час за кусцік хаваецца, якім стала Мышка):*

– Бачу, бачу!
Не садзіся на пянёк,
Не еш піражок!
Нясі бабулі,
Нясі дзядулі!

М я д з в е д з ь. Бач, якая вачастая! Усё бачыць! *( Падняў кораб і пайшоў далей. Ішоў, ішоў, зноў спыніўся, хоча сесці на пянёк і кажа):*

– Сяду на пянёк,
З'ем піражок!

М а ш а *(з-за кусціка-Мышкі):*

– Бачу, бачу!
Не садзіся на пянёк,
Не еш піражок!
Нясі бабулі,
Нясі дзядулі!

М я д з в е д з ь. Вось якая Маша хітрая! Высока сядзіць, далёка глядзіць! А вунь і вёска. Мабыць, яе хата. Паляпамем у дзверы. *(Грукае).* Адчыняйце, я вам гасцінцы ад унучкі Машы прынёс! Дзед? Баба? Вы што, паглохлі ўсе там? Не чуеце? Не выходзяць, пэўна, баяцца. Голас мой пачулі, і схаваліся, дзверы – на зашчэпку, не інакш... А хто мяне, Мядзведзя, не баіцца? Смельчакоў такіх мала ёсць. *(Грукае).* Не адчыняюць. А хараша як піражкі пахнуць! *(Нюхае).* Сам бы з'еў, ды нельга: даў слова Машы даставіць па адрасу.

Шалёны брэх сабак.

М я д з в е д з ь. О, адкуль гэта яны, сабакі, тут узяліся?! Не было ж раней! З сабакамі жартачкі кепскія! Уцякаць трэба! Драпаць! Пакуль маю шубу не пашкодзілі і без штаноў не пакінулі! Ай-яй-яй!

*(Знікае, пакінуўшы кошык, толькі чуваць яго лямант)* А каб вас!.. Прэч!.. Ай-я-яй!.. Балюча ж, чэрці акаянныя!..

Прыбягае Маша. Хапае дубец і спяшаецца ратаваць Мядзведзя.

М а ш а. Спыніцеся, сабачкі! Ён добры Мядзведзь! Ён пяшчотны! Не чапайце яго!.. Ён ласкавы!.. Спыніцеся, сабачкі!.. *(Знікае).*

Паступова знікае і брэх сабак.

З'явілася Маша. Падняла кораб.

М а ш а. Сустракайце мяне, бабуля і дзядуля! Гэта я прыйшла, ваша ўнучка!

Г а л а с ы. Ідзем, ідзем табе насустрач, Машанька!

–Зачакаліся мы ўжо цябе даўно!..

–Думалі, здарылася што!..

–Ноч не спалі, з дзедам па лесе блукалі!..

– Цябе шукалі…

М а ш а. Спяшаюся да вас, мае любыя дзядуля і бабуля! *(Знікае разам з корабам).*

Прыбягае Мышка.

М ы ш к а. Я чакаю абяцаныя Машай зярняткі. Я іх, між іншым, сумленна зарабіла. Дапамагла Машы ўцячы ад Мядзведзя? Дапамагла. Усе бачылі, не дадуць схлусіць. Ці, можа, хто не бачыў?

Дзеці адказваюць.

З'яўляецца Маша са шкляначкай проса.

М а ш а. Давай сваю кішэнь, Мышка!

М ы ш к а. А я думала, што ты ўжо забылася. На маю кішэнь.*(Падставіла кішэнь).*

М а ш а *(перасыпала проса).* Еш на задароўе, Мышка! Проса ты любіш.

М ы ш к а. І не толькі проса – я і цябе люблю, Маша. *(Абняліся).*

І неўзабаве Мядзведзь, Маша і Мышка зноў сталі акцёрамі.

Г а р л а ч ы к. Бачыце, як у казцы ўсё добра адбываецца? Добра і прыгожа. Хоць, бывае, і не заўсёды... Як вось не пашанцавала Міхалу Патапавічу...

П е р ч ы к а в а. За ўсё гэта мы і любім казкі, так, дзеці?

Г а р л а ч ы к. А дзе ж наш чарадзейны рукзачок? Ага, вось ён. Ну, па-першае, трэба ўсе нашы рэчы скласці назад у яго. У рукзачок. *(Распранаюцца).* Пачакайце, ды мы можам яшчэ шмат чаго ўзяць тут, у рукзачку. Рэквізіту хопіць ажно на некалькі казак!..

С у н і ч к і н а. А мне... а мне...

Г а р л ы ч ы к. Ты што, Сінічкіна, плачаш?!

С у н і ч к і н а. Можа трошачкі я плачу... сапраўды... Проста мне вельмі хочацца, каб і гэтая казка працягвалася, не канчалася. Я зноў хачу быць Машай. Я буду зусім інакш паводзіць сябе з Мядзведзем. Ён – добры, хоць і дужы, і не такі страшны, як яго малююць...

Г а р л а ч ы к. Тады і я не супраць пабыць яшчэ добрым і дужым!.. *(Грае мускуламі).*

С у н і ч к і н а. А пасля таго, як яго сабакі пакусалі, увогуле аднаго пакідаць Мядзведзя разам са сваёй бядой і зусім не-пачалавечы...бессардэчна.

П е р ч ы к а в а. І я таксама згодна. Рукзачок, рукзачок, зноў пакажы свой язычок!.. Вяртай нам адзенне!..

Г а р л а ч ы к. Ну, калі такая просьба паступіла, – вяртаемся назад у казку!

Гучыць “Песня пра рукзачок”.

Акцёры пераапранаюцца, і мы бачым зноў на сцэне Мядзведзя, Машу і Мышку. Бачым ёлачку, Мядзведзеву хатку...

Г а р л а ч ы к *( як толькі скончылася песня).* А пакуль – антракт!

Заслона.

Д з е я д р у г а я.

Мядзведзь сядзіць на лаве, абхапіў лапамі галаву, стогне. Маша і Мышка рыхтуюць мазь і бінт. І, як могуць, суцяшаюць бедалагу.

М я д з в е д з ь. О-ё-ё-ёй! Як балюча мне!.. Мама родная!.. Якія злыя сабакі ў вашай вёсцы, Машанька! Што я зрабіў ім кепскага? Ды я ж… ды я ж мухі ніколі не пакрыўдзіў!.. Хаця яны і дастаюць мяне, бывае!.. Як вось цяпер… Прэч, мухі!.. *(Адганяе мух адной лапай, моршчыцца ад болю*). Ой, блін!..

М а ш а. Пачакай трошкі, зараз мы цябе з Мышкай палечым.

М я д з в е д з ь. Ды чакаю, чакаю. Ой, хутчэй лячыце мяне! Я хоць і вялікі, аднак нецярплівы, страх, як боль не пераношу, страх!… I што я тым сабакам кепскага зрабіў? О-ё-ё-ёй!..

М ы ш к а. Я вось лісцік падарожнічка прынесла, вельмі дапамагае, калі сабака ўкусіць Зараз прерабінтуем табе лапку.

М а ш а. Цярпі.

М я д з в е д з ь. Цярплю, цярплю. Аднаго зразумець не магу: навошта сабакі мяне пакусалі? Што, што я ім кепскага зрабіў?

М а ш а. Дзякуй табе, Мядзведзь, дзякуй ад дзядулі з бабуляй.

М я д з в е д з ь. Няўжо не хлусіш?

М а ш а. Ні грамачкі. Прасілі перадаць табе, Міхал Патапавіч, самы вялікі дзякуй за тое, што ты прынёс да самай хаты кораб з піражкамі і грыбамі.

М я д з в е д з ь. Ой, баліць! Асцярожней, Мышка!

М ы ш к а. Ды ўжо ж стараюся, як магу. Я на медсястру не вучылася, дарэчы! Трывай!

М а ш а. Давай я, Мышка, давай.

М ы ш к а. Ажно лоб у мяне мокры стаў. I навошта ты ўцякаў ад сабак, дзівак?

М я д з в е д з ь. Дык яны б мяне з’елі.

М а ш а. Мышка праўду кажа: не трэба было ўцякаць.А так яны бачаць, што Мядзведзь палахлівы, і давай за табой гнацца. Ты што, сабак не ведаеш?

М я д з в е д з ь. Век вучыся, а дурнем пamрэш. Якраз пра мяне сказана.

М а ш а. Ну вось і парадак. Ляжы і менш хадзі, тады хутчэй зажыве твая лапа.

М я д з в е д з ь. Ды якраз тая, якой я мёд з дупла дастаю. Можна сказаць, мая рабочая… лапа. Хацеў адбіцца ад сабакі, а ён – цап. Ну, бачылі вы такое? I чаму я такі нешчаслівы нарадзіўся? *(Лёг).*

М а ш а. Спі. Мы табе перашкаджаць не будзем.

М я д з в е д з ь. Спаць?

М а ш а. Спаць.

М ы ш к а. Хутчэй папраўішся.

М я д з в е д з ь. Не, я лепш ноччу пасплю.

М а ш а. Тады давай, Мышка, нашаму гаротніку вячэру прыгатуем? Усё роўна ён спаць не будзе.

М ы ш к а. У цябе гэта добра атрымліваецца. А я буду мух адганяць ад свайго гаспадара.

Маша рыхтуе вячэру, Мышка махае перад Мядзведзем газетай – адганяе мух.

М ы ш к а. Вы на каго? На самога Міхала Патапавіча? А вы ведаеце, распусніцы, што ён заслужаны Мядзведзь ва ўсім гэтым лесе? Не? Тады навошта перашкаджаеце яму ляжаць і спакойна лячыцца, а? Непаслухмянцы якія!.. Ух!.. Ён, дарэчы, лясныя ўзнагароды мае… арэхавы ордэн і медаль з яловай шышкі… Так што ведайце, каго крыўдзіце!.. Ух, шалапутныя!.. *(Колькі разоў дасталося і па носе Мядзведзю).* Прабач, не хацела.

Мышка нарэшце разагнала ўсіх мух.

Усё, тэрыторыя ачышчана ад гэтых маленькіх супастатаў! Спі спакойна, Міхал Патапавіч…

М я д з в е д з ь. Пашанцавала, што вас сустрэў. Як бы я адзін? Аднаму цяжка жыць. Хоць Мядзведзю, хоць птушцы, хоць чалавеку, відаць…

М а ш а. А дзе твая цётка?

М я д з в е д з ь *(смяецца, а потым моршчыцца ад болю).* Ой! Ай! А цётка, гэта хто?

М ы ш к а. Жонка. Я і тое ведаю.

М а ш а. Так, так, яна. Жонка твая дзе? Другая палавіна, а?

М я д з в е д з ь. А, вось вы пра якую цётку…Паляўнічыя забілі…

М ы ш к а. Гады!

М я д з в е д з ь. Канешне, гады.

М ы ш к а. Я б ім… не ведаю, што зрабіла…

М а ш а. Дык што, да цябе і дзеці нават у госці не прыходзяць?

М ы ш к а *(ажывілася, ціха).* І мне цікава… што ён скажа…

М я д з в е д з ь. Прыходзяць, калі ім што трэба… Як жа не прыходзяць!.. Яшчэ як прыходзяць!..

М ы ш к а. Ой… ой..

М я д з в е д з ь. Дай грошай, дай мёду… а самі спяць і без карысьці па лесе сноўдаюцца…

М ы ш к а. Хлусіць ён, ніколі я нікога ў яго не бачыла. Ну хлусі ж жа, скажы, Міхал Патапавіч!

М я д з в е д з ь. Ат, прычапілася! Багата ты бачыш з-пад маёй падлогі!

М ы ш к а. Ну, добра, добра: прыходзяць, прыходзяць да цябе і дзеці…мёд прыносяць… падмятаюць… прыбіраюць… Вунь і штаны табе, у якіх дзірка на дзірцы, зацыравалі… Праўда ж, Міхал Патапавіч?

М я д з в е д з ь. Знікні! Прэч з вачэй! Табе што трэба?

М а ш а. Чужую бяду і рукамі развяду…

М я д з в е д з ь. І я б так сказаў…Чаго ты прычапілася да мяне, Мышка?

М ы ш к а. Больш не буду!

М я д з в е д з ь. Нават і памарыць не дае мне, шкодніца…

М ы ш к а *(блазнуючы).* Марыць не забараняецца, х-хі!..

Паўза.

М я д з в е д з ь. Пачакай у мяне! Дай паправіцца! Бач, асмялела, варта толькі мне было зрабіць выгляд, што яе быццам не заўважаю…

М ы ш к а. А хто б цябе лячыў? У каго ёд і бінт быў? Забыўся?

М я д з в е д з ь. Згодны. Ідзём, Мышка, з табой на міравую. Будзем сябрамі.

М ы ш к а. Вось гэта іншая справа! Дзе венік? *(Падмятае і спявае).*

Месці, з венікам дружыць
Я люблю, паверце.
Хоць прывыкла ў норах жыць,
Хоць прывыкла ў норах жыць,
Не люблю я смецця.

Тайну ведаю адну.
Змалку веру ў цуды:
Толькі хвосцікам махну –
Стане чыста ўсюды.

Я рабіць усё магу
Хутка і прыгожа.
А пакрыўдзяць, дык збягу…
Хто тады паможа?

М я д з в е д з ь. Гэта вас мне сам Бог паслаў…

М а ш а. Даруй, Мядзведзь.

М я д з в е д з ь. За што ж, Машанька, табе даравацъ?

М а ш а. Каб не тыя піражкі!..

М я д з в е д з ь *(перабівае).* Вось-вось… каб не тыя піражкі, то я б і не ведаў, што недзе на зямлі жыве добрая дзяўчынка Маша… Ну, а з Мышкай мы даўно знаёмы…

М ы ш к а. Знаёмы, знаёмы.

М я д з в е д з ь. Так што, сяброўкі мае, можа і праўду людзі кажуць: усё, што не робіцца, да лепшага.

А нам, мядзведзям, не прывыкаць да знявагі. Нацярпеўся і я ліха. Помніце ж, можа, казку пра вяршкі і карэньчыкі?

М а ш а. Я, я помню!

М ы ш к а. А я не…

М я д з в е д з ь. Дзе табе ведаць, пад падлогай у мяне сядзеўшы?

М ы ш к а. Так бы і кпіў, так бы і падцвельваў нада мной!.. А самога не чапай!.. Не дакраніся!.. Пан такі!..

М я д з в е д з ь. Ну, ну! Памаўчы, халера! Са мной было здарэнне тое. У школу ж не хадзіў, адкуль мне было ведаць, што не заўсёды вяршкі і карэньчыкі есці можна… Забраў я карэньчыкі, а мужык склаў каласкі на воз і адвёз на млын муку малоць. Доўга я не ведаў, што з тымі карэньчыкамі рабіць. Так і выкінуў. І рэпу ён з’еў, а мне адно лісце пакінуў. Казку, Мышка, ведаць трэба, тады не будзеш лыпаць вачыма.

М ы ш к а. Ну, а мужык той што?

М я д з в е д з ь. А што мужык? Ён і цяпер, відаць, баіцца ў мой лес хадзіць. *(Пайза).* Вось так мяне і дурацъ, беднага Мядзведзя, увесь час. А ўсё таму, што паленаваўся ў школу хадзіць. А бязграматнага лягчэй лёгкага абдурыць.

М а ш а. Не сумуй, Міхал Патапавіч.

М я д з в е д з ь. Пакідаеш, значыць, мяне, Маша?

М а ш а *(сумна).* Ага…Пакідаю…

М я д з в е д з ь. Што ж, застануся з Мышкай… Яна таксама, аказваецца, добрая… Толькі шкрабае іншы раз па начах…спаць не дае… Шкрабаеш, Мышка?

М ы ш к а. Больш не буду!

М а ш а. Я… я пагавару, калі ты згодны… Патапавіч… з бабуляй і дзядулем… У нас хата светлая, прасторная… І табе месца хопіць…Будзем разам жыць… Ты згодны?

М я д з в е д з ь. Дзякуй, Маша. Але мядзведзі жывуць толькі ў лесе.  Тут наш дом. Ды і Мышцы адной сумна будзе. Так, Мышка?

М ы ш к а. Не… не… не ведаю я…

М а ш а. І яе возьмем.

М ы ш к а. Ур…ра! Там зярнятак многа! Я згодна!..

М я д з в е д з ь. Зярнятак мы і тут раздабудзем, Мышка. Хіба ж у гэтым шчасце?

М ы ш к а. Ну, калі толькі так… Сапраўды, на каго ж мы пакінем яго, Патапавіча?

М а ш а. Я ведаю ўжо дарогу да цябе…

М я д з в е д з ь. Заходзь.

М а ш а. Абавязкова буду заходзіць. Шчасліва табе, Патапавіч. *(Хлімкае).*

М ы ш к а. Ты ніяк плачаш, Міхаіл Патапавіч?

М а ш а. Ён… сапраўды плача…

М ы ш к а. Першы раз бачу, каб мой гаспадар слязу пусціў. *(Прамакае яму слёзы на вачах).* Фу, расплакаўся! Плакса! Хопіць!

М я д з в е д з ь. Як жа мне не расплакацца, калі прывык я да Машы. Прывык я да цябе, Маша. Сумаваць буду.

М а ш а. І я па табе… *(Ледзве стрымлівае слёзы).* Не сумуйце тут без мяне, Патапавіч і Мышка.

М я д з в е д з ь. Ну, усё, пара развітвацца… больш не магу…Самі слёзы капаюць… *(Адвярнуўся ад Машы і Мышкі, румзае).*

Мышка паказвае Машы жэстамі, каб тая пайшла… Маша выходзіць. А потым вяртаецца, забрала дзіравыя штаны.

М ы ш к а *(спявае калыханку):*

Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Зрабіў Мядзведзь хадулі:
– Не буду я ў бярлозе спаць,
У цырк наймуся выступаць.
Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Пра гэта пчолкі ўчулі
І паляцелі паглядзець,
Як трэніруецца Мядзведзь.
Мядзведзь кінуўся ўцякаць:
Падумаў – хочуць пакусаць!
Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Згубіў Мядзведзь хадулі.

Яму паспачувайце,
Як знойдзеце – аддайце!
Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Знайшоў Мядзведзь хадулі!..

Зацямненне.

Мядзведзь прачнуўся. Мацае сваё цела. Усміхаецца.

М я д з в е д з ь. Мне пашанцавала больш, чым каму: я ўжо не хворы! *(Зняў бінты).* Я ўжо не хворы!.. Маша!.. Мышка!.. Я не хворы-ы!.. У мяне зноў з'явіўся апетыт!.. Я хачу мёду*!..(Шукае дзіравыя штаны).* А дзе мае дзіравыя штаны? Тыя, у якіх я па дрэвах лажу? Новыя, парадныя, ляжаць, а тых – няма. Хто бачыў мае дзіравыя штаны?

М а ш а *(з'явіўшыся).* У цябе больш няма дзіравых штаноў, Міхал Патапавіч!

М я д з в е д з ь *(ажно і засвяціўся ).* Ой, Маша! Ты?

М а ш а. Я.

М я д з в е д з ь. Якім ветрам?

М а ш а. Штаны зацыравала…. Прынесла вось… *(Падала).* Трымай, Патапавіч!

М я д з в е д з ь *(узяў).* А ў якіх жа я цяпер буду па дрэвах лазіць? Мёд даставаць? І тых шкада, і гэтых…

М а ш а. А я і збаночак мёду прынесла. Не трэба лазіць…

М я д з в е д з ь. Няўжо? Ці мне ўсё гэта прысніласся?

М а ш а *( ставіць перад Мядзведзем збанок).* Частуйся, Міхаіл Патапавіч.

М я д з в е д з ь. У мяне сёння цудоўны дзень. Вылечыўся… І Маша ў госці прыйшла… Ну, што яшчэ можна пажадаць самому сабе, а?!

М ы ш к а *(з'явілася).* Каб і Мышка прыбегла! Вось і я!..

М а ш а (падала Мышцы зярняткі). Гэтыя зярняткі ад бабулі і дзядулі табе, Мышка…

М ы ш к а. Дзякуй ім! Самы вялікі дзякуй!

М я д з в е д з ь. Не, не! Тут недакладнасць атрымалася: самы вялікі дзякуй – ад мяне, ад мяне, чуеш, Маша? За мёд! Мёд больш смачны.

М ы ш к а. Зярняткі смачней.

М я д з в е д з ь. А я кажу: мёд!

М ы ш к а. А я кажу: зярняткі!..

М я д з в е д з ь. А я кажу… а я кажу… Пачакай, Мышка! І мёд, і зярняткі смачныя, відаць, і сапраўды тады, калі яны ад добрых людзей… Давайце будзем палуднаваць, сябры мае… За сталом і рабярэмся, што смачней…

М ы ш к а. Згода!

М я д з в е д з ь. Прысаджвайся, Маша, і ты… Ды раскажы, што там і як, дзе людзі жывуць, робіцца…

М а ш а. А давайце спярша самі сходзім да людзей.

М ы ш к а. Мне ўсё роўна дзе зярняткі есці… ці за сталом, ці па дарозе…

М я д з в е д з ь. Мёд мой таксама нікуды не падзенецца. Гайда тады, ці што?

М а ш а і М ы ш к а. Гайда!

Гучыць “Песня пра рукзачок”. Мядзведзь, Маша і Мышка зноў становяцца артыстамі Гарлачыкам, Сунічкінай і Перчыкавай.

П е р ч ы к а в а. Што гэта ўсё цяпер значыць, сябры?

С у н і ч к і н а. Што нашай казцы – канец! Правільна?

Г а р л а ч ы к. Яны, хлопчыкі і дзяўчынкі, ого якія здагадлівыя!

С у н і ч к і н а. Шкада развітвацца з нашымі героямі не толькі вам, але і нам, паверце.

Г а р л а ч ы к. Аднак каб казачныя героі часцей прыходзілі да вас, абяцаем ніколі не развітвацца…

Р а з а м. …з чарадзейным рукзачком!..

Гучыць “Песня пра рукзачок”, артысты ўкладваюць у яго ўсе свае рэчы, і развітваюцца з гледачамі.

Канец.

2007

З м е с т

Слова ад аўтара………………3
Жыла-была Ёлачка………….4
Добры саначнік Аўгей, або Прыгоды перад Новым годам…..34.
Чарадзейны рукзачок……65

Літаратурна-мастацкае выданне
Ткачоў Васіль (Васіль Юр’евіч)
ЖЫЛА-БЫЛА ЁЛАЧКА
П’есы-казкі
Для дзяцей
малодшага школьнага зросту

Тыраж 3000 экз.
Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
“Народная асвета” Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск